● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

5 верасня 1998 г. субота, № 175 (23526)

# ЗВЯЗДА




## Картачнай сістэмы на прадукты харчавання не будзе

**Гэтую пагалоску «закінула» да нас расійская газета «Известия» ў нумары за 3 верасня. Калі верыць аўтару артыкула «Дзве буханкі ў адны рукі ў Беларусі», то атрымліваецца, што ўжо ў хуткім часе ў рэспубліцы будзе ўведзена сістэма размеркавання асноўных прадуктаў харчавання па картках. Няўжо гэта сапраўды так, а мы і не ведалі?**

Прэс-сакратар міністра гандлю Вячаслаў Лявонаў ахарактарызаваў гэтую навіну як абсалютнае глупства. «Я не ведаю, чаму такая сталая газета піша брудную хлусню пра Беларусь, — сказаў работнік міністэрства. — Ніякіх картак няма, і ўводзіць іх ніхто не плануе». На думку прэс-сакратара, у краіне нават не назіраецца ажыятажнага попыту на харчовыя прадукты і іншыя тавары. З апошнім сцвярджэннем мне, праўда, было цяжка цалкам пагадзіцца, бо я сам нядаўна бачыў павышаную цікавасць да дываноў, тэлевізараў, пральных машын...

Між тым, у магазінах пачынаюць дзейнічаць нормы водпуску тавараў. Праўда, супрацоўнік упраўлення арганізацыі гандлю міністэрства паведаміў карэспандэнту «Звязды», што гэтыя нормы пачынаюць дзейнічаць толькі па распараджэнню мясцовых уладаў. Што ж датычыцца прамысловых тавараў, то на іх, па словах суразмоўцы, наогул не прадугледжаны нормы водпуску...

**Сяргей КУРКАЧ.**

*Здарэнні*

## Непажаданы візіцёр у Доме сувязі

Па каментарый наконт чутак пра тэрарыста, які захапіў у абласным цэнтры заложнікаў, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся ў прэсслужбу УКДБ па Гродзенскай вобласці. Вось што высветлілася.

2 верасня каля 18 гадзін 30 хвілін, жыхар г. Гродна Ч. уварваўся ў адно са службовых памяшканняў Дома сувязі па вуліцы К. Маркса і, аб'явіўшы заложнікамі трох аператараў вузла электроннай сувязі, запатрабаваў арганізаваць сустрэчу з супрацоўнікамі дзяржбяспекі. Пры гэтым ён пагражаў прымяніць выбуховае ўстройства, якое ў яго мелася. Каб пазбегнуць цяжкіх наступстваў, месца здарэння было ачэплена сіламі органаў унутраных спраў, прыпынены рух аўтатранспарту. У ходзе перагавораў зламыснік здаўся супрацоўнікам УКДБ, выдаў муляж выбуховага ўстройства. Супраць грамадзяніна Ч., 42-гадовага беспрацоўнага, заведзена крымінальная справа, высвятляюцца прычыны, якія схілілі яго да незаконнай акцыі.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## Нелюдзі ў лесе

На 43-гадовага лесніка Барысаўскага лясніцтва ўдзень у лесе паблізу вёскі Пчэльнік напалі двое невядомых. Яны прымусілі яго выпіць воцат, пасля чаго аблілі бензінам і падпалілі. Аб гэтым ён паведаміў работнікам міліцыі ўжо ў Барысаўскай гарадской бальніцы, калі прыйшоў на кароткі час у прытомнасць. Урачы двое сутак змагаліся за жыццё лесніка, але выратаваць яго не змаглі.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

# ДУХОЎНАЕ БАГАЦЦЕ ЗАСТАНЕЦЦА АБ'ЯДНАЛЬНАЙ СІЛАЙ НАШАГА НАРОДА




Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## 6 верасня ў старажытнай Оршы пройдуць урачыстасці, прысвечаныя Дню беларускага пісьменства

**Удзельнікаў і гасцей урачыстасцяў з гэтай нагоды цёпла павіншаваў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.**

**Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што горад на Дняпры ўнёс значны ўклад ва ўзбагачэнне духоўных каштоўнасцяў і культурных традыцый беларускага народа. Аршанская зямля ўзгадавала выдатных палітыкаў, дзеячаў культуры і асветнікаў — Льва Сапегу, Васіля Цяпінскага, Спірыдона Собаля. Яна дала Беларусі сапраўднага сына і патрыёта, які быў улюбёны ў родную мову і шанаваў яе, паэта, пісьменніка і мысліцеля Уладзіміра Караткевіча.**

**Прэзідэнт падкрэсліў, што Дзень беларускага пісьменства — свята тых, хто захоўвае і прымнажае культурныя каштоўнасці народа, сцвярджае высокія чалавечыя ідэалы, бярэ на сябе адказнасць за будучыню дзяржавы.**

**БЕЛТА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 4 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 59500 | 60500 | 34300 | 34900 | | | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | | | | | | | 228-2047 |
| Пріорбанк | 59000 | 60000 | 33100 | 33500 | 3000 | 4800 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 50500 | | 29026.32 | | 3700 | | Курс на 05.09.1998 |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## Усміхнёмся!




**На экзамене.** Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

**Сустрэліся двое сяброў:**

*— Ведаеш, я ніяк не магу з табой пабачыцца, вечна ты заняты.*

*— А ты спрабаваў дамовіцца аб гэтым з маёй сакратаркай?*

*— Так, мы з ёю нядрэнна бавілі час, але ж я хачу сустрэцца з табою.*

* * *

**Гутараць двое сяброў.**

*— Учора на рынку купіў сабе цудоўную кнігу «Як зарабіць мільён». Але, на жаль, у ёй не аказалася паловы старонак.*

*— Не журыся, паўмільёна — гэта таксама грошы!*

# ПАРАСТАК НАБІРАЕ МОЦЫ

## Са старшынёй Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь Міхаілам ПАДГАЙНЫМ гутарыць журналістка Таццяна АНТОНАВА

**— Міхаіл Васільевіч, вось ужо пяты год у нашай краіне вельмі шырока, з размахам святкуецца Дзень беларускага пісьменства і друку. Як вядома, Дзяржаўны камітэт па друку ў свой час стаў адным з ініцыятараў новага для Беларусі свята. Якім яно задумвалася?**

— Па-першае, адразу ўдакладню. У назве свята вырашана апусціць слова «друку». Бо ў паняцце «пісьменства» само сабою арганічна ўваходзіць і паняцце «друк». Канцэптуальна ідэя свята выспявала ў перыяд з канца 80—пачатку 90-х гадоў. У аснову канцэпцыі была пакладзена ідэя асэнсавання гістарычнага шляху пісьменства і друку на Беларусі, павышэння яго ролі і значэння ў духоўным жыцці грамадства.

**— Пэўна, за чатыры гады ўжо склаліся нейкія традыцыі правядзення свята?**

— Так. Варта нагадаць, як урачыста пачыналася яно ў 1994 годзе. Тады ў навукова-творчую экспедыцыю «Дарога да святыняў» упершыню адправілася група пісьменнікаў, вучоных, дзеячаў культуры і мастацтва, журналістаў і духавенства з агнём, запаленым ад Гроба Гасподня ў 1992 г. Благаслаўляючы вандроўку па святых для кожнага беларуса месцах, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт тады сказаў запамінальныя словы: «На магутным дрэве славянскага пісьменства і культуры з'явіўся першы парастак: Беларусь вызначыла сваё нацыянальнае свята — Дзень беларускага пісьменства і друку. І толькі ад намаганняў усяго народа залежыць, ператворыцца гэты парастак у моцную галіну высакароднага дрэва або засохне, не паспеўшы распусціцца».

Жыццё паказала, што парастак не засох. Вось ужо пяты год свята ўпэўнена крочыць па краіне. У нашай дзяржаве яно адзначаецца штогод у першую нядзелю верасня. Свята вандруе па старажытных гарадах і сёлах Беларусі. Першае свята прымаў славуты Полацк, потым быў старажытны Тураў, Навагрудак, летась — гістарычны Нясвіж. Усе тыя асяродкі культуры, якія я назваў, звязаны з імёнамі славутых асветнікаў і першадрукароў: Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Кірылы Тураўскага, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Пятра Мсціслаўца, Лаўрэнція Зізанія. Адзначу, што кожны раз напярэдадні свята ў дарогу па вызначаным маршруце адпраўлялася навукова-творчая экспедыцыя. Падчас першай экспедыцыі, напрыклад, яе ўдзельнікі пабывалі ў Слонімскім раёне, наведалі краязнаўчы музей і бібліятэку ў Баранавічах, правялі там сустрэчы з мясцовай інтэлігенцыяй. У 1996 годзе экспедыцыя наведала Навагрудак, Любчу, Лаўрышава. У вёсцы Лаўрышава адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Святому Елісею Лаўрышскаму. Каля вёскі Загор'е на Святым полі, дзе знаходзяцца астанкі воінаў розных нацыянальнасцяў, якія загінулі на беларускай зямлі, устаноўлены Крыж Памяці і камень Пакаяння. Акрамя гэтага падчас той экспедыцыі было асвечана 12 новых храмаў.

Летась свята пісьменства прысвячалася 480-годдзю з часу выдання Францыскам Скарынам «Псалтыра». Таму з гэтай нагоды ў Нясвіжы адбыліся чытанні, у Нацыянальнай бібліятэцы — выстава старадрукаў, у Нацыянальнай кніжнай палаце — выстава беларускай прэсы, ладзіліся выставы твораў выяўленчага мастацтва.

**— Чаму месцам правядзення чарговага Свята беларускага пісьменства абрана Орша? Спачатку меркавалася, што гэта будзе Пінск.**

— Так. Але «кандыдатура» Пінска ў гістарычнай вазе саступіла Оршы. У XVII стагоддзі ў Оршы ў Куцеінскім манастыры дзейнічала друкарня, дзе працаваў славуты, але, на жаль, малавядомы сучаснікам Спірыдон Собаль. Ім выдадзены буквар, па якім вучыліся дзеці, выдаваліся многія



іншыя патрэбныя для асветы людзей кнігі. Буквар Спірыдона Собаля — адзін з першых на тэрыторыі Беларусі. Увогуле Орша была значным культурным цэнтрам на тагачасных беларускіх землях. Развівалася літаратура, квітнеў тэатр...

Там і сёння выдатна наладжаны друкарскія справы, выдаецца самая разнастайная літаратура. Гэта цэнтр выпуску перыядычных выданняў — як дзяржаўных, так і недзяржаўных.

Ну і, вядома, усе мы памятаем, што менавіта пад Оршай нарадзіўся наш выдатны пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

Пінск жа адзначаў якраз сваё 900-годдзе. Цэнтрам святкавання Дня беларускага пісьменства гэты горад стане ў наступным годзе.

**— Традыцыямі беларускага пісьменства ў нас, безумоўна, ёсць падставы ганарыцца. І мы павінны гэта рабіць. Але давайце пагаворым пра сённяшні стан беларускага кнігадрукавання.**

— Сёння на Беларусі працуюць 10 дзяржаўных выдавецтваў, зарэгістравана больш за 100 прыватных. Выходзіць каля 1000 перыядычных выданняў, з іх 240 — дзяржаўныя. 340 перыядычных выданняў — беларускамоўныя. Дзяржава падтрымлівае

**(Заканчэнне на 4-5-й стар.)**

**У чацвер, 3 верасня, Аляксандр Лукашэнка наведаў Шклоўскі і Горацкі раёны Магілёўскай вобласці. Пасля чаго ў Магілёве адбылася нарада прэзідэнта са старшынямі гар- і райвыканкамаў, кіраўніцтвам абласной «вертыкалі».**

**Тэмпы ўборкі ў Магілёўскай вобласці, якімі цікавіўся кіраўнік дзяржавы падчас наведвання гаспадарак, былі ацэнены як крыху горшыя, чым у іншых абласцях. Але Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што ніякай драмы ў гэтым няма: на яго думку, палі ў вобласці, нягледзячы на наступствы дажджоў, даволі нядрэнныя, і трэба толькі тэрмінова, «штурмам», не шкадуючы сіл убраць апошняе, што засталося.**

**Але на нарадзе ў Магілёве размова ішла не толькі аб уборачнай кампаніі, а больш аб шляхах развіцця сельскай гаспадаркі краіны, яе паступовага рэфарміравання.**

*Падрабязнасці*

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА: «ПАЕЗДКІ ПА АБЛАСЦЯХ — «ЦАГЛІНЫ» ВА ЎДАСКАНАЛЕННЕ КАНЦЭПЦЫІ РАЗВІЦЦЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ»

— Паездкі па абласцях — гэта «цагліны» ва ўдасканаленне канцэпцыі, якая выпрацавана па сельскай гаспадарцы, — сказаў у інтэрв'ю журналістам прэзідэнт. — Ужо вырысоўваецца шлях, па якому мы павінны ісці для таго, каб падняць нашу сельскую гаспадарку. Гэтыя паездкі лішні раз мяне ўпэўніваюць, што трэба рабіць і па слабых гаспадарках, і па цэнаўтварэнню, і па лізінгу, і асабліва па дысцыпліне і парадку.

Асаблівая ўвага на нарадзе з кіраўніцтвам Магілёўскай вобласці была ўдзелена развіццю сельскагаспадарчых комплексаў — па вырошчванню свіней і буйной рагатай жывёлы. Кіраўнік дзяржавы паставіў задачу да канца 2000 года запусціць усе комплексы, якія ёсць, на іх поўную праектную магутнасць, а таксама штогод прыбаўляць 10 працэнтаў у пагалоўі кароў, гэта стратэгічны напрамак, бо сёння за мяса можна атрымаць у Расіі і валюту, і нафту, і газ.

Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што трэба эфектыўна выкарыстоўваць індустрыю вытворчасці льну, якая створана ў рэспубліцы. Гэта таксама можа прыносіць неблагія прыбыткі ў «цвёрдай» валюце і дзяржаве, і гаспадаркам, і льнозаводам, бо рынкі збыту тут больш чым шырокія. Урадам будзе разгледжаны па прапанове льнаводаў Шклоўшчыны новы механізм заахвочвання: калі гаспадарка дае 300 тон ільноваласкна, то працаўнікі і кіраўнік асабіста будуць атрымліваць ад дзяржавы матэрыяльную падтрымку.

Прэзідэнт нагадаў кіраўнікам мясцовай «вертыкалі» аб неабходнасці паклапаціцца аб забеспячэнні насельніцтва традыцыйнымі прадуктамі харчавання. Усе сховішчы, папярэдзіў Аляксандр Лукашэнка, павінны быць запоўнены бульбай і іншай агародніннай, і дэфіцыту гэтых прадуктаў у краіне не павінна існаваць. Ён прапанаваў старшыням гар- і райвыканкамаў выкарыстаць паступовую схему разлікаў з сельскімі гаспадаркамі за пакладзеную ў сховішчы бульбу — па меры рэалізацыі.

На нарадзе была прадстаўлена і стратэгія па забеспячэнню сельскай гаспадаркі тэхнікай, і ў першую чаргу — уборачнай. Калі камбайнавы парк у бліжэйшым будучым не будзе адноўлены, то, па меркаванню кіраўніка дзяржавы, калгасы і саўгасы чакае дрэнная перспектыва. Сёння сельскім раёнам і гаспадаркам трэба абапірацца на некалькі мадэляў, якія забяспечаць эфектыўную працу на палях: у іх лік уваходзіць вядомы «Дон», два айчынныя — камбайн, які распрацоўвае «Гомсельмаш», і танны міні-камбайн, які плануе выпускаць «Бабруйскаграмаш». А таксама пажадана мець камбайн замежнай вытворчасці тыпу нямецкага «Ягуара». Асабліва што датычыцца апошняга, дык сельскім гаспадаркам, па перакананню Аляксандра Лукашэнкі, павінны дапамагчы фінансава больш моцныя прамысловыя прадпрыемствы, шэфскія сувязі з якімі на ўзаемавыгаднай аснове зараз актыўна аднаўляюцца.

Падводзячы вынікі нарады, прэзідэнт у сваім выступленні закрануў і тэму фінансавага крызісу, у першую чаргу — расійскага. Ён адзначыў, што Беларусі, якая выбрала свой шлях — больш спакойны і ўзважаны, удалося пазбегнуць абвалу, а таксама і пагрозы харчовай бяспецы, якая сёння рэальна існуе ў Маскве.

— Я аднойчы ацаніў падзеі ў Расіі як палітычны псіхоз, — адказаў Аляксандр Лукашэнка на просьбу журналістаў пракаменціраваць расійскі крызіс і магчымыя шляхі выйсця з яго. — І некаму хочацца перакінуць гэты псіхоз на грамадства. Некаму выгадна «муціць ваду», каб лавіць у ёй «буйную рыбу». Некаму гэта патрэбна. Мяне насцярожвае гэта абстаноўка, і я баюся, каб гэты гвалт не захліснуў рэспубліку. Вы бачыце, колькі трэба прыкладаць высілкаў, каб гэтага не адбылося. Што датычыцца шляхоў выйсця з расійскага крызісу, то я не магу ўмешвацца. Але там, здаецца, пакуль і няма жадання выйсці з сітуацыі. Там пачалася перадвыбарная кампанія ў парламент і прэзідэнта, таму для некага там чым горш — тым лепей. І унікальнасць гэтай сітуацыі ў тым, што вельмі многім палітычным лідэрам яна патрэбна, каб да ўлады прыйсці на крытыцы. А шлях адзіны: трэба заняцца рэальным сектарам эканомікі. І калі ўлада здольна — узяць асноўныя рычагі кіравання ў свае рукі. Трэба вярнуць давер людзей, а для гэтага трэба вярнуцца, паўтараю, да рэальнага сектара эканомікі — да прамысловасці і сельскай гаспадаркі, трэба ездзіць і глядзець, як сеюць, убіраюць, як і што вырабляюць... І не словам дапамагаць трэба, а справай.

Прэзідэнт Беларусі таксама паведаміў журналістам, што ён атрымаў запрашэнне ад прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева прыняць удзел у Алмаацінскім саміце кіраўнікоў дзяржаў «пяцёркі». Але наўрад ці гэта паездка адбудзецца. «Галоўная прычына такога рашэння, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — у тым, што пакуль няма ўзаемаразумення на сённяшні дзень па самаму буйному пагадненню — аб адзінай эканамічнай прасторы».

**Ілона ІВАНОВА.**

## У НАФТАВІКОЎ РАДАСЦЬ. ДВАЙНАЯ

**Першая — з выпадку надыходу прафесійнага свята — Дня нафтавіка. А другая — па прычыне здабычы стомільённай тоны «чорнага золата».**

З гэтай нагоды працоўныя калектывы аб'яднання «Беларусьнафта» ганарацца сваёй работай, запрасіўшы на ўчарашнія ўрачыстасці прэзідэнта краіны Аляксандру Лукашэнку і іншых афіцыйных асоб.

Прэзідэнт адкрыў Памятны знак у гонар здабычы стомільённай тоны беларускай нафты. Павіншаваўшы прысутных са святам і знамянальнай падзеяй у іх жыцці, у сваім выступленні прэзідэнт краіны сказаў:

— Стомільённая тона беларускай нафты — гэта асаблівы рубеж не толькі вашага калектыву, але і ўсёй краіны — Рэспублікі Беларусь, якая не з'яўляецца чымсьці аграрна-сыравінным прыдаткам.

Вы здолелі прыпыніць падзенне здабычы «чорнага золата». І дзяржава прыме ўсе меры, каб разгледзець вашы прапановы па дадатковай здабычы каштоўнага багацця з падземных нетраў.

Прэзідэнт краіны наведаў буравую № 70, уручыў калектыву аб'яднання Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь і ўрадавыя ўзнагароды групе ветэранаў і перадавікоў вытворчасці.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ВЕРА Ў БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

### Афіцыйныя асобы лічаць, што «заяц» сябе яшчэ пакажа

Менш за месяц таму, памятаю, мы з зайздрасцю дзівіліся той лёгкасці, з якой насельніцтва Расіі магло канверсаваць рублі ў СКВ: колькі часу мінула, як беларусы пазбаўлены такой прывілеі з-за дэфіцыту валюты. Аднак крызіс на фінансавым рынку расставіў усё на свае месцы: яе грамадзяне цяпер апынуліся ва ўмовах, падобных на нашыя. Напярэдадні выхадных большасць абменных пунктаў зусім не вялі аперацый з доларам: ён адсутнічаў. Курс наяўнага USD там складаў ужо 19 рублёў 20 капеек. Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы лічбы больш сціплыя. У сістэме электронных лотавых таргоў быў зафіксаваны курс 16 рублёў 99 капеек.

Самы час «спяваць» дыфірамбы долару і ў Беларусі. Напрыканцы тыдня ён з непахісным энтузіязмам б'е новыя рэкорды. Ценявы банкнотны рынак раніцай у пятніцу прапанаваў чарговы курс — 90 тысяч рублёў за долар валютчыкі давалі прадаўцам апошняга. Нямногія з іх адважваліся пазбаўляцца ад USD. Калі ж хто з мянял і прадаваў, дык прасіў за адзін долар 105—110 тысяч рублёў. У чацвер многіх здзівіў скачок долара на пазабіржавым рынку: USD з лёгкасцю пераадолеў адразу больш як 100 тысяч пунктаў і спыніўся на 300 тысячах рублях. Учора і тут адбыліся змены. Праўда, на гэты раз цвердаканверсоўны саступіў беларускаму рублю і каціраваўся па 180—240 тысяч рублёў.

Сітуацыя, якая сёння складваецца ў нашай рэспубліцы, па-рознаму ацэньваецца фінансістамі. Афіцыйны погляд здаецца ясным і простым — вядуцца вялікія спекуляцыйныя гульні, і становішча як у Расіі, так і ў Беларусі створана штучна. Як лічыць афіцыйны Мінск, падстаў для пазабіржавага курса ў 300 тысяч рублёў за долар, як гэта было зафіксавана ў чацвер, няма ніякіх. Тлумачыцца ўсё проста: на рахунках нерэзідэнтаў ёсць рэшткі беларускіх рублёў — вось яны і спрабуюць расхістаць курс, каб сарваць на гэтым куш. Які ў такім разе рэальны курс? Адказ адзін: ёсць афіцыйны курс, і, калі ацэньваць беларускі рубель па пакупной здольнасці, па аб'ёму валавога ўнутранага прадукту, ён і будзе рэальным. Дарэчы, што датычыцца апошніх падзей на рознічным рынку, то ў Нацыянальным банку раяць насельніцтву не спяшацца з набыццём тавараў і той жа валюты. Калі няма неабходнасці. Спецыялісты галоўнага банка, з якімі давялося гутарыць, выказваюць меркаванні, што долар «пахістаецца» і вернецца назад.

З другога боку, некаторыя эксперты заяўляюць аб тым, што на самай справе сёння гандаль СКВ на пазабіржавым рынку не вядзецца. На іх думку, вядзецца ператасоўка невялікай сумы беларускіх рублёў з аднаго банка ў другі, нерэзідэнтны. Пры кожнай такой ператасоўцы курс долара павышаецца — ад 120 тысяч да 150 і г. д. Карацей, ідуць чыста арбітражныя аперацыі. А робіцца гэта з адной мэтай: хтосьці спадзяецца, што потым удасца нядрэнна зарабіць.

А як тлумачаць сітуацыю фінансісты з камерцыйных банкаў? Многія з іх катэгарычныя: курс падымаецца дзякуючы ўстановам, якія маюць адчайную патрэбу ў замежнай валюце. Аднак усё роўна прадаўцоў СКВ на нашым рынку пакуль няма. Натуральна, каціроўкі з гэтай нагоды растуць. Дакуль усё будзе працягвацца — на гэта практыкі таксама даюць адназначны адказ: пакуль не міне крызіс у Расіі. Справа ў тым, і гэта не сакрэт, што падсілкоўванне валютай беларускія банкі ажыццяўляюць пераважна праз вялікую суседку. А паколькі расійскія банкі пераcталі прадаваць долары, няма каму іх прадаваць і беларусам. Зразумела, у такой сітуацыі кошт «тавару» падымаецца...

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*Кампетэнтны субяседнік*

# НЕВЫРАШАЛЬНЫХ ПРАБЛЕМ — НЯМА

### На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае кіраўнік групы саветнікаў прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, доктар эканамічных навук, прафесар Іван ЛЕМЯШЭЎСКІ

**— Урад прыняў пастанову аб павышэнні мінімальнай заработнай платы, адпаведна вырастуць і заробкі працоўных. Ці пакрываюць яны, па ацэнках урада, растучыя выдаткі на тавары першай неабходнасці і камунальныя паслугі ў ацяпляльны перыяд?**

— У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28.08.1998 года № 1359 з 1 кастрычніка гэтага года мінімальная заработная плата павышаецца з 250 да 350 тысяч рублёў, а тарыфная стаўка 1-га разраду — з 500 да 700 тысяч рублёў, і (адразу ж падкрэслю) толькі для аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы. Акрамя таго, тут жа прадугледжаны грашовыя даплаты да тарыфных ставак з 1-га па 5-ты разрады.

Працягваецца ўдасканаленне агульнай сістэмы аплаты працы ў народнай гаспадарцы рэспублікі. У гэтых мэтах прадугледжана ўвесці ў дзеянне са студзеня 1990 года новую рэдакцыю 28-разраднай Адзінай тарыфнай сеткі з новымі суадносінамі тарыфных каэфіцыентаў 28-га і 1-га разрадаў 9,92: 1 і ўнесці адпаведнае змяненне ў тарыфныя каэфіцыенты па ўстаноўленай тарыфікацыі работнікаў.

Безумоўна, усе гэтыя і іншыя змены будуць садзейнічаць павышэнню намінальнай заработнай платы. Але патрэбны ўсё ж удакладненні па зместу ўнесеных змен.

Перш за ўсё, трэба вызваліцца ад ілюзіі аб тым, што прынятае рашэнне аб павышэнні мінімальнай заработнай платы прывядзе да аўтаматычнага павышэння, тым больш ва ўсіх галінах і сферах, заработнай платы. У нашых умовах, па сутнасці з моманту ўвядзення такога інстытута, як мінімальная заработная плата, апошняя ніколі не выконвала, як гэта прынята ў эканоміцы рыначнага тыпу, функцыю сацыяльнага нарматыву аплаты працы найбольш простай кваліфікацыі. Да мінімальнай заработнай платы толькі прывязаны шэраг выплат па сацыяльнай падтрымцы, стыпендыі студэнтаў, а таксама мінімальны ўзровень асобных відаў пенсій. Усё астатняе — дэталі. Таму ва ўказанай пастанове ўрада даручана перагледзець памеры дзяржаўных стыпендый, зрабіць пераразлік пенсій па асобных відах.

Паводле ацэнкі Мінсацабароны, мінімальная пенсія павялічыцца на 16,6 працэнта, а стыпендыі студэнтаў, дапамогі па беспрацоўю — на 16,1 працэнта.

Звернем увагу і на тое, што павышэнне стаўкі 1-га разраду распаўсюджваецца толькі на работнікаў бюджэтнай сферы, дзе дзяржава выступае наймальнікам, і не распаўсюджваецца на рэальны сектар эканомікі. У апошнія 1,5—2 гады назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя апераджальнага росту аплаты працы работнікаў галін матэрыяльнай вытворчасці ў параўнанні з бюджэтнікамі. Зразумела, што гэта ненармальная з'ява. Вельмі важна, што меры, якія прымаюцца, дазволяць павысіць у цэлым сярэднюю зарплату работнікаў бюджэтнай сферы на 18—20 працэнтаў і скараціць створаную дыспрапорцыю.

Што датычыць рэальнага сектара эканомікі, то тут рашэнне аб павышэнні заработнай платы прымаюць самі гасразліковыя прадпрыемствы з улікам сваіх рэальных фінансава-эканамічных магчымасцяў. Калі прадпрыемства не мае пратэрмінаванай запазычанасці па плацяжах у бюджэт за энерганосьбіты і г. д., то ў такіх выпадках фактычна няма абмежаванняў па павелічэнню зарплаты.

З улікам установак, якія прадугледжаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1995 г. № 92, павышэнне ўзроўню аплаты павінна ажыццяўляцца ў залежнасці ад павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, а таксама павышэння эфектыўнасці вытворчасці. Той, хто сёння гатовы пайсці на неабдуманае павышэнне фонду аплаты працы пры жорсткай рыначнай цэнавай канкурэнцыі, заўтра з вялікай доляй верагоднасці можа спыніць вытворчасць. Размяркоўваць можна толькі тое, што выпушчана.

**— Якая цяпер рэальная заработная плата ў розных галінах эканомікі? І які кошт «спажывецкай карзінкі»?**

— Налічаная, г. зн. намінальная заработная плата за чэрвень гэтага года склала 4176,8 тысячы рублёў, г. зн. павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 190,4 працэнта.

Паводле разлікаў, мінімальны спажывецкі бюджэт у чэрвені склаў 3005,2 тысячы рублёў, г. зн. сярэдняя зарплата ў чэрвені склала 139,0 працэнта да мінімальнага спажывецкага бюджэту, што вышэй за паказчыкі, якія прадугледжаны на год у Генеральным пагадненні з прафсаюзамі.

Што датычыць рэальнай заработнай платы, то апошняя залежыць і ад узроўню інфляцыі, г. зн. цэн на спажывецкія тавары і паслугі. Таму актыўнае інфляцыйнае рэгуляванне з боку ўрада аказвае прамое пазітыўнае ўздзеянне на ўзровень рэальных грашовых даходаў насельніцтва, як бы ні наракалі вытворцы. За апошнія 12 месяцаў рэальная заработная плата павялічылася на 135,3 працэнта, пры гэтым мае месца нераўнамернае змяненне ўзроўню пакупной здольнасці намінальнай заработнай платы па асобных групах тавараў, уключаючы і харчовую групу, што тлумачыцца канкрэтнай дынамікай рознічных цэн.

**— Наколькі востраў для нашай эканомікі з'яўляецца праблема запазычанасці па зарплаце?**

— Сітуацыя, звязаная з затрымкамі выплаты заработнай платы, пастаянна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі ўрада. Запазычанасць такога роду ёсць, ёсць пэўныя сезонныя ваганні, але ў цэлым становішча не з'яўляецца крытычным. Памеры такой запазычанасці па стану на 25 жніўня 1998 г. зменшыліся (у параўнанні з 25 чэрвеня) на 6-7 працэнтаў. Рэгулярна выплачваюцца пенсіі і дапамогі, што выгадна адрознівае беларускую эканоміку ад бліжэйшых суседзяў. Няма запазычанасці па зарплаце перад работнікамі бюджэтнай сферы. Асноўная доля запазычанасці па зарплаце прыпадае на прадпрыемствы сельскай гаспадаркі і прамысловасць. У асноўным гэта запазычанасць па налічанай заработнай плаце за папярэдні месяц і складае ад фонду заработнай платы 10—15 працэнтаў. Сродкі на выплату зарплаты заўсёды выдзяляюцца ў першую чаргу. Ёсць дакладны парадак рэзервавання і браніравання сродкаў з часткі выручкі, якая паступае на банкаўскія рахункі прадпрыемстваў. Але рэальныя выплаты ўсё ж залежаць ад фінансавага стану прадпрыемства.

Разам з тым распрацоўка і рэалізацыя аператыўных мераў па скарачэнню запазычанасці па заработнай плаце пастаянна кантралюецца з боку органаў кіравання.

**— Як адбіўся на эканамічнай сітуацыі ў Беларусі расійскі фінансавы крызіс, як пацярпелі банкі і вытворчасць?**

— Фінансавы крызіс у Расіі не з'яўляецца нечаканасцю. Іншага і нельга было чакаць у тых умовах. Расія — толькі найбольш буйны гандлёва-эканамічны партнёр. Дэстабілізацыя сітуацыі можа стварыць шэраг негатыўных момантаў ужо ў самай бліжэйшай перспектыве. Таму сёння робяцца дадатковыя захады, каб выраўнаваць сітуацыю, хоць шэраг беларускіх прадпрыемстваў сутыкнуўся з вельмі значнымі цяжкасцямі.

Могуць адбыцца зрухі ў ёмістасці рынкаў збыту, дзесьці абвастраецца праблема плацяжоў з-за збояў у сістэме разлікаў. Але ўсё гэта вырашальныя праблемы. Эканамічнага супрацоўніцтва не спыніць.

**— Ці вытрымліваецца ў цэлым па эканоміцы 2-працэнтны ліміт на рост цэн?**

— Не вытрымліваецца. Так, фактычна за студзень—ліпень 1998 года сярэднямесячны прырост індэкса спажывецкіх цэн склаў 3,3 працэнта пры прагнозным паказчыку 2 працэнты. Аналіз прычын невыканання дадзенага паказчыка — гэта прадмет асобнай размовы. Разам з тым адзначу адну асаблівую супярэчлівасць.

Выступаючы ў ролі спажыўца, мы маем усе падставы быць незадаволенымі, калі бачым як змяняюцца цэннікі ў магазінах і на рынках. Але ўжо як членам працоўных калектываў нам поўнасцю не падабаецца, калі хтосьці абмяжоўвае рост цэн на прадукцыю, якая выпускаецца, і асабліва калі да таго ж зніжаецца рэнтабельнасць вытворчасці.

Калі ў 1997 годзе індэкс цэн на прамысловую прадукцыю на 22—24 працэнты пункта перавысіў індэкс спажывецкіх цэн, то ў сёлетнім годзе становішча выраўнавалася. Урад сочыць за тым, каб не ствараўся скрыты інфляцыйны патэнцыял.

Адначасова пераглядваюцца і нашы магчымасці па пакрыццю дэфіцыту дзяржбюджэту ў наступным годзе. Урад мае падставы жорстка кантраляваць і дзейнасць натуральных манаполій. Усё гэта садзейнічае падаўленню інфляцыйных працэсаў.

**Інтэрв'ю правёў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПАВІНШАВАЎ БЕЛАРУСКІХ НАФТАВІКОЎ І ГАЗАВІКОЎ

Самаадданая праца нафтавікоў і газавікоў, іх высокі прафесіяналізм і вытворчая дысцыпліна дапамагаюць умацоўваць эканамічны патэнцыял дзяржавы. Аб гэтым гаворыцца ў віншаванні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, накіраваным работнікам галіны з нагоды іх прафесійнага свята і здабычы 100-мільённай тоны беларускай нафты.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што прадпрыемствы галіны, забяспечваючы надзейнае і бесперабойнае забеспячэнне нафтай і нафтапрадуктамі, прыродным і звадкаваным газам аб'ектаў энергетыкі, прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі, займаюць надзвычай важнае месца ў паліўна-энергетычным комлексе рэспублікі.

Аляксандр Лукашэнка пажадаў работнікам нафтавай і газавай прамысловасці, іх сем'ям моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, новых працоўных поспехаў на карысць роднай Беларусі.

**БЕЛТА.**

## ЗАЯВА САВЕТА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Апошнім часам у Расійскай Федэрацыі фінансава-эканамічны крызіс узмацніўся палітычным процістаяннем.

Дэпутаты беларускага парламента занепакоены развіццём падзей у Расіі. У гэтай сувязі члены Савета Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, абмеркаваўшы становішча ў Расіі, лічаць сваім абавязкам заявіць аб сваёй пазіцыі.

Мы ўспрымаем крызісныя з'явы, што адбываюцца ў саюзнай з намі Расіі, як вялікую бяду, якая напаткала не толькі расіян, але і беларусаў.

Адзначаем, што пры высокай ступені эканамічнай інтэграцыі, дасягнутай у рамках Саюза Беларусі і Расіі, крызіс наносіць адчувальны ўрон эканоміцы, што значна адбіваецца на матэрыяльным становішчы грамадзян нашай рэспублікі.

Разам з тым мы пацвярджаем сваю прыхільнасць курсу на захаванне і ўмацаванне Саюза Беларусі і Расіі, заключанага згодна з воляй беларускага і рускага народаў, і выказваем сваю зацікаўленасць у тым, каб як фінансава-эканамічны, так і палітычны крызіс у Расіі быў пераадолены. Мы спадзяёмся, што вышэйшае палітычнае кіраўніцтва Расіі праявіць мудрасць і знойдзе адзіна правільнае выйсце са становішча, якое склалася.

Мы верым у палітычную і грамадзянскую сталасць дэпутацкага корпуса Дзяржаўнай Думы і членаў Савета Федэрацыі Расіі і перакананы, што яны не дапусцяць неканстытуцыйнага развіцця падзей у дзяржаве. Заяўляючы аб сваёй пазіцыі, члены Савета Палаты прадстаўнікоў лічаць, што палітычнае становішча ў Беларусі застаецца стабільным. Упэўнены, што народ Беларусі ў гэтай складанай сітуацыі зноў праявіць высокую палітычную сталасць і захавае спакой і вытрымку.

**Савет Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

*Да візіту ў Беларусь Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА*

## ФЕДЭРЫКА МАЁР — ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАР АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ ПА ПЫТАННЯХ АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ (ЮНЕСКО)



Федэрыка Маёр нарадзіўся ў Барселоне 27 студзеня 1934 года. Вышэйшую адукацыю ён атрымаў у Мадрыдскім універсітэце, які закончыў з адзнакай у 1956 годзе па спецыяльнасці «фармацэўтыка». У гэтым жа універсітэце і па той жа спецыяльнасці праз два гады Федэрыка Маёр абараніў з адзнакай доктарскую дысертацыю.

З 1963 года, на працягу дзесяці гадоў, ён працаваў ва універсітэтах Гранады і Мадрыда, атрымаў званне прафесара Оксфардскага універсітэта. У 1973 годзе Федэрыка Маёр стаў намеснікам міністра адукацыі і навукі Іспаніі.

З 1974 па 1978 год ён займаў пасады прэзідэнта Кансультатыўнай камісіі па навукова-тэхнічных даследаваннях іспанскага ўрада, дырэктара цэнтра малекулярнай біялогіі Вышэйшага савета навуковых даследаванняў аўтаномнага Мадрыдскага універсітэта, з'яўляючыся таксама членам Кансультатыўнага камітэта Еўрапейскага цэнтра па вышэйшай адукацыі ЮНЕСКО і Каралеўскага савета па спецыяльнай адукацыі. Акрамя таго, у 1976-77 гадах Федэрыка Маёр быў дэпутатам парламента Іспаніі, старшынёй Камісіі па адукацыі і навуцы палаты дэпутатаў і саветнікам прэм'ер-міністра Іспаніі. У 1976 годзе Федэрыка Маёр стаў на два гады намеснікам генеральнага дырэктара ЮНЕСКО, а таксама прадстаўніком генеральнага дырэктара ЮНЕСКО ў Савеце Універсітэта ААН у Токіо. У 1977-78 гадах Федэрыка Маёр — міністр адукацыі і навукі Іспаніі, віцэ-прэзідэнт навуковага савета Фонду Рамон Арэсес (Іспанія). У гэты ж час ён займаў пасаду дырэктара Інстытута навук аб чалавеку ў Мадрыдзе. У 1978—81 гадах Федэрыка Маёр — дэпутат Еўрапарламента ад Іспаніі.

Генеральным дырэктарам ЮНЕСКО ён стаў у 1980 годзе і з'яўляецца ім да гэтага часу.

**БЕЛТА.**

## У сталіцы з'явіцца помнік Адаму Міцкевічу

**У гэтым годзе адбудзецца святкаванне 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. З гэтай нагоды Міністэрствам культуры, Мінгарвыканкамам абвешчаны рэспубліканскі бліц-конкурс на лепшы праект помніка-бюста паэту ў сталіцы Беларусі.**

Месцам узвядзення помніка-бюста вызначаны сквер, што прылягае да вуліцы Гарадскі вал.

Узяць удзел у конкурсе, які праводзіцца з 17 жніўня па 17 верасня гэтага года, могуць асобныя грамадзяне, якія маюць творчую кваліфікацыю, і творчыя калектывы.

Для абмеркавання пададзеных праектаў прадугледжваецца арганізацыя іх выстаўкі. Аўтар лепшага праекта атрымае прэмію ў суме 50 мільёнаў рублёў і заказ на праектаванне помніка-бюста Адаму Міцкевічу ў Мінску. Умовы конкурсу ўдзельнікам прадстаўляе Міністэрства культуры. Тэлефон для даведак 226-96-59.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# САПРАЎДНЫ КРЫЗІС У РАСІІ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

## Субяседнік «Звязды» — астролаг Вераніка Кудраўцава

— **Зоркі прадказвалі цяперашні ход падзей у Расіі?**

— Сітуацыя, што адбылася ў сакавіку гэтага года ў Маскве, — змена ўрада, была прадвызначаная. Аналіз гараскопаў Чарнамырдзіна і Кірыенкі прыводзіць да цікавых высноў. Некаторая няміласць з боку ўлады ў сакавіку Чарнамырдзіну пагражала. Але не было яўных прымет, што ўказвалі б на звяржэнне гэтай фігуры. Для буйнога дзяржаўнага дзеяча такія сведчанні павінны быць куды больш важкімі. Складваецца такое ўражанне, што Чарнамырдзін быццам бы і не пакідаў крэсла. Больш таго, у яго з'явілася магчымасць ачысціцца, скажам так. Чарнамырдзін мог выкарыстаць гульнявую сітуацыю, і не выключана, што ён сам часткова быў ініцыятарам сакавіцкіх падзей.

У Кірыенкі быў шанц зрабіць рэальныя новаўвядзенні, сабраць граматную каманду. Але адначасова з гэтым прасочваецца яшчэ адзін паказчык — прыкрыццё нейкага саліднага чалавека. Прычым гэтая функцыя адбываецца праз падтрымку ранейшага курсу. У Кірыенкі быў выбар напачатку. Але ён аддаў перавагу ролі выканаўцы і прадаўжальніка мінулай справы. Гэты малады чалавек са сваёй камандай мог устанавіць новыя правілы гульні, але не здолеў гэтага зрабіць. Жнівеньскі вынік — зняцце яго з пасады прэм'ер-міністра — быў заканамерным пры абраным шляху.

— **Што чакае Расію ў бліжэйшы час?**

— У сярэдзіне верасня ў суседняй дзяржаве адбудуцца падзеі, што стануць сюрпрызам для ўсіх. Асабліва вызначаецца 14 верасня. Размова ідзе пра нейкую асобу. Не магу сказаць, што пра Чарнамырдзіна. Але ён не сыдзе, бо павінен яшчэ адыграць сваю ролю ў кастрычніку. У сілах гэтага чалавека ўнесці некаторую стабілізацыю. Нават генерал Лебедзь ускосна пацвярджае гэтую думку. Чарнамырдзін у стане не дапусціць час самазванцаў. Але вераснёўскія падзеі — толькі мышыная валтузня. Сітуацыя ў палітычным плане, хутчэй за ўсё, будзе паглыбляцца. На кастрычнік расійскія прафсаюзы прызначылі выступленне. А 7 кастрычніка па гараскопу — чорны дзень для Расіі. Будуць рашучыя падзеі, пік разраду энергіі, але ў гэты дзень абыдзецца без крыві. Выбух сітуацыі, прымяненне сілы можа здарыцца 15-16 кастрычніка. Толькі напрыканцы месяца будзе ўнесена нейкая яснасць.

— **Беларусь у цеснай сувязі з Расіяй. Вунь і нашы прафсаюзы запланавалі акцыю пратэсту, праўда, на лістапад. Нас таксама будзе трэсці?**

— Верасень для Беларусі больш-менш спакойны месяц. Мала таго, у сярэдзіне яго будзе пэўнае спачыванне на лаўрах. Толькі ў канцы верасня нас сур'ёзна зачэпіць. Хаця ўсе катаклізмы ў Беларусі будуць праходзіць нашмат мякчэй, чым у суседзяў. Забастоўкі прафсаюзаў не абмінуць і нас. Але краіне дастанецца больш ад расійскіх падзей. Беларускім прэзідэнтам могуць быць прынятыя нейкія рашучыя крокі, што істотна паўплываюць на абставіны.

Адзінае, што застаецца простым людзям і што асабіста я хачу параіць, — трымацца, умець жыць нават у час такіх складаных падзей. Якія б ні бушавалі буры, варта трымацца сваёй лодкі, кіраваць ёй, і ў залежнасці ад абставінаў падымаць ці апускаць ветразь.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ФУТБОЛ. АДБОРАЧНЫ ТУРНІР ДА ЧЭМПІЯНАТУ ЕЎРОПЫ-2000*

# ДАТЧАНЕ ХОЧУЦЬ УЗЯЦЬ БЕЛАРУСАЎ АЎТАРЫТЭТАМ І КЛАСАМ, МЫ ДАТЧАН — ВЯЛІКІМ ЖАДАННЕМ І «ФАРТАМ»

**Сёння Нацыянальная зборная Беларусі па футболу на сталічным стадыёне «Дынама» ў 20.30 па мясцоваму часу правядзе стартавы адборачны матч да чэмпіянату Еўропы-2000 з камандай Даніі. Канчатковы варыянт баявога састава каманды яе настаўнік Міхаіл Вяргеенка назаве толькі за некалькі гадзін да пачатку матча, хоць на перадматчавым зборы ў Стайках было задзейнічана больш за 20 ігракоў.**

Па словах Міхаіла Вяргеенкі, перад адказным матчам настрой ва ўсіх «зборнікаў» выдатны і хлопцы гатовы біцца за перамогу. «Нам бы крыху фарту, якога не хапала ў мінулым годзе», — заключыў Міхаіл Нічыпаравіч...

Судзіць сустрэчу будзе брыгада арбітраў з Германіі: Георг Дардзене, Харальд Сатэр, Йозеф Веберс; рэзервовы суддзя — Лутц Міхаэль Фрэліх. Інспектар матча — швед Ларс-Оке Б'ерк. Сёння ж паралельна з паядынкам у Мінску ў першай адборачнай групе сустрэнуцца паміж сабой і нашы саппернікі — зборныя Уэльса і Італіі.

Учора ж увечары ў рамках адборачнага турніру маладзёжнага чэмпіянату Еўропы (U-21) свае сустрэчы згулялі маладзёжныя зборныя. Беларусы прымалі раўеснікаў-датчан на гарадскім стадыёне ў Барысаве і прайгралі — 0:2.

Напярэдадні гульні галоўны трэнер беларускай «маладзёжкі» Іван Савосцікаў сказаў, што прыйдзецца гуляць з «ліста», паколькі ні разу не ўдалося выехаць «у разведку» на матчы з удзелам сапернікаў. Яшчэ непакоіць гульня абодвух заяўленых варатароў — Уладзіміра Гаева («Славія», Мазыр) і Васіля Хамутоўскага (БАТЭ). Аднак, заявіў Іван Іванавіч, па натуры ён максіміліст, а таму нацэлены на перамогу.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*РЭПАРТАЖ «З КАЛЁС»*

# ДАЦКІЯ ФУТБАЛІСТЫ ПРЫВЕЗЛІ З САБОЙ У МІНСК ХЛЕБ З МАСЛАМ. ЦІ ПАСЫПЛЮЦЬ ЯГО БЕЛАРУСЫ «ПЕРЦАМ»?

**Учора карэспандэнт «Звязды» сустракаў восьмую каманду свету ў міжнародным аэрапорце «Мінск-2».**

**Па дарозе ў аэрапорт у аўтобусе, як заўсёды, не абыходзіцца без жартаў.**

— Датчане з сабой повараў прывезлі, экалагічна чыстыя прадукты, ваду звычайную — як быццам баяцца, што іх тут атруцяць перад матчам, — пачынае прадстаўнік беларускай Федэрацыі футбола Аляксандр Башмакоў. — І вось падыходзіць да мяне сёння наш супрацоўнік і кажа: «Аляксандр Мікалаевіч, пачаставалі мяне датчане сваімі ласункамі... М-м-м!.. Пальчыкі абліжаш!» — «І якім, — дапытваюся, — такім далікатэсам цябе частавалі? Кальмарамі? Альбо амарамі?» — «Ды не, — аблізваецца, — хлебам з маслам». — «Ну, — адказваю, — калі хлеб з маслам, то і сапраўды далікатэс. Сам, бывае, з галадухі не супраць добрую лусту «Нарачанскага» з маслам рубануць».

— Эх, а лепш датчан на футбольным полі «рубануць»! — падказвае нехта.

... Дацкія футбалісты, відаць, дакладна тэлепаты, бо, нібы пачуўшы ўнутраны голас наконт «рубануць», іх самалёт яшчэ хвілін дваццаць кружыў у паветры і замест запланаваных 12.50 прызямліўся ў аэрапорце толькі на пачатку другой гадзіны дня. Хуценька прайшоўшы мытны кантроль, скандынавы накіраваліся да аўтобусаў. І як ні цікавалі журналісты за знакамітым варатаром датчан Петэрам Шмейхелем, той, як спрытны верабейчык, праскочыў каля карэспандэнтаў са словамі «потым, потым» (у Маскве адзін з прадстаўнікоў пішучай брацііі паспеў Раналда хоць за трусы схапіць) і зашыўся на апошнім сядзенні аўтобуса за таніраваным шклом. У «зорак» свае дзівацтвы! Затое дацкія журналісты былі «душа нараспашку».



Фота IREX/ProMedia.

**■ Галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Даніі Бо Ёхансан у мінскім аэрапорце.**

*— Ці дасталося Шмейхелю ад дацкай прэсы «на арэхі» пасля чэмпіянату свету?*

— Крыху, бо Петэр — кумір.

*— Чаму ўсё ж такі браты Лаўдрупы адмовіліся гуляць за зборную?*

— Уласнае жаданне. Праўда, калі пра рашэнне старэйшага брата ведалі даўно, то малодшы пакінуў каманду нечакана для ўсіх.

*— Ці прыляцелі дацкія балельшчыкі?*

— Не, магчыма, будуць сваім ходам дабірацца.

Не адмовіўся даць невялікае інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» і галоўны трэнер зборнай Даніі Бо ЁХАНСАН, пачаўшы з традыцыйнага «пра настрой каманды»:

— Мы заўсёды ў добрым настроі, асабліва напярэдадні адказнай гульні. Іншая справа, калі прайграеш — вось тады на душы пагана.

*— Асабіста вы вельмі расхвальваліся пасля таго, як вашы падапечныя прайгралі ў чвэрцьфінале нядаўна прайшоўшага чэмпіянату свету бразільцам?*

— Калі шчыра, то вельмі. І нават не таму, што мы прайгралі — 2:3, а таму, што, лічыце, пры роўнай гульні. А многія сцвярджаюць нават, што наша каманда паказвала і больш прыгожы футбол. Але ж гэта гульня — нічога не зробіш.

*— Я так зразумеў, спадар Ёхансан, што не смяротны выпадак будзе калі і заўтра (5 верасня. — Аўт.) зборная Даніі прайграе-такі беларусам.*

— Не смяротны, калі будзе нічыя, хоць, шчыра кажучы, мы прыехалі перамагаць. Наша група, у якой акрамя вашай каманды яшчэ італьянцы і швейцарцы, проста не мае права на такую расслабленасць. Ды і статус восьмай каманды свету абавязвае.

*— А на якое месца ў групе вы разлічваеце?*

— Вось тут, у Мінску, аб гэтым цяжка казаць. Хоць, калі паспрабаваць даць прагноз, то фаварытам я назваў бы італьянцаў. Ну а там ужо як карта ляжа.

*— У Мінску вы ўпершыню?*

— Так. Не быў ніводнага разу ні ў Мінску, ні ў Расіі.

...На зваротным шляху мяне з фотакарэспандэнтам пасадзілі ў аўтобус, у якім ехалі 29 дацкіх журналістаў. І калі да Мінска заставалася кіламетраў пятнаццаць, замежныя госці аж прыліплі да вокнаў: ля дарогі, на вясковым футбольным полі мірна пасвіўся статак разнамасных кароў. Для датчан гэта, магчыма, была экзотыка. Мне ж у гэты момант падумалася іншае: «Будзем спадзявацца, што ў сённяшнім матчы са зборнай Даніі беларускія футбалісты не будуць выглядаць «разнамаснымі каровамі на лёдзе».

**Алесь СІВЫ.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.24 | 19.52 | 13.28 |
| Віцебск – | 6.12 | 19.44 | 13.32 |
| Магілёў – | 6.13 | 19.42 | 13.29 |
| Гомель – | 6.14 | 19.34 | 13.20 |
| Гродна – | 6.41 | 20.05 | 13.24 |
| Брэст – | 6.42 | 20.05 | 13.23 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 6 верасня.**
**З 18.53 — 16-я месяцавыя суткі.**
**З 15.49 Месяц у сузор'і Рыб.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Трафіма, Феафіла, Апалінара**
**К. Освальда, Марыі, Станіслава**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер няўстойлівы, 2—7 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 14—16, Магілёве, Гомелі — 15—17, Мінску — 16—18, Гродне — 17—19, Брэсце — 18—20 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак без ападкаў, вецер слабы. Тэмпература ўначы — 4—9, удзень — 16—21 градус цяпла.

## Калі няма добрага лета, прыходзіць рання восень

Як паведамілі рэдакцыі ў Гідраметцэнтры рэспублікі, у Беларусі ў бліжэйшую ноч сіноптыкі чакаюць невялікіх замаразкаў (да 1 градуса) на нізкіх балоцістых мясцінах. Удзень таксама не будзе спёкі -- 16--21 градус цяпла. Але ўжо праз пару дзён перагоднасць начных замаразкаў знікне цалкам. Падымецца тэмпература ўдзень да 16--21 градуса цяпла. Якое надвор'е ўсталюецца на працягу ўсяго верасня, сіноптыкі пакуль не рызыкуюць прадказаць. Але ў той жа час яны пакуль не бачаць, з якога боку да нас можа прыляцець доўгачаканае пацяпленне. Няўжо будзем мерзнуць аж да вясны?

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ...І ХАЧУ РАСКАЗАЦЬ ВАМ ПРА ВАШУ РАДЗІМУ...

## *Запозненае і таму не адпраўленае пісьмо*

Добры дзень, Настаўнік!

Можна, я буду называць вас так? Хоць і не давялося сустрэцца ў гэтым жыцці (я спазнілася нарадзіцца, ці не — хутчэй вы паспяшаліся пайсці ад нас), — усё, што сёння ёсць у мяне напісанага і задуманага, — дзякуючы вам маю. А калі на душы пагана і на ручку і паперу глядзець не хочацца, — ваша кніга адзіны і самы дзейсны ад такога наслання паратунак...

Таму, калі ўзялася пісаць пра ваш родны горад, адразу, вядома ж, пра вас і ўспомніла. І схамянулася, і спалохалася: калі сам Караткевіч пра Оршу пісаў, — дзе ўжо мне з ім цягацца. Але... Прагартала ў вашым зборы твораў усе кніжкі, а пра Оршу знайшла ўсяго толькі верш, ды невялічкую замалёўку да юбілею, ды яшчэ меншую — на адзін просты сказ — згадку ў вялікім нарысе... Чаму вы так мала пісалі пра сваю радзіму? Гадаць не бяруся.

А напісаць жа ёсць што. Барані мяне Божа спрабаваць зрабіць тое, што не зрабілі вы, але ўсё ж асмелюся некалькі штрыхоў у партрэт вашага горада намаляваць. Хаця б таму, што гэта — Ваш горад. І людзі павінны пра яго ведаць. Дый вам, думаю, было б цікава даведацца, што ўбачыла сёння ў Оршы за адзін дзень маладая самаўпэўненая асоба, якая таксама пнецца ў пісьменнікі...

Вы, напэўна, не даравалі б, калі б я ні слова не напісала пра Аршанскі вакзал. Тым больш калі ўпершыню трапляеш у які-небудзь горад на цягніку, менавіта на вакзал звяртаеш увагу. Адсюль, натуральна, і першае ўражанне. Вакзал у Оршы — агромністы, і нават крыху вусцішна ў яго вялізным высачэзным будынку было б, калі б не безліч людзей. Адсюль ідуць цягнікі ва ўсе бакі свету, таму шматлікіх вандроўнікаў тут поўна ў любы час дня і ночы. Прасторная, з высокай столлю, з вычварнай жырандоляй пад гэтай столлю, зала чакання нагадвае пакой, дзе яшчэ ўчора шумеў шыкоўны баль, а потым нехта за ноч наставіў уперак і ўздоўж сцен лавак, пафарбаваў сцены ў светла-брудны колер, насадзіў усюды людзей з валізкамі... І ўсё роўна, калі пачынае шыпець дзесь у дынаміку, здаецца, зараз грымне адтуль вальс. Ды ўсё ідзе па плану: сумны гугнявы голас аб'яўляе аб прыбыцці чарговага цягніка...

Не абвінавачвайце мяне ў ліслівай замілаванасці, калі напішу, што ў Оршы мне з першых крокаў спадабалася. Можа, проста пашчасціла: увесь дзень на шляху сустракаліся добрыя людзі. Бабуля на вакзале, што прадавала грушы-скараспелкі, не толькі расказала, як дайсці да прыпынку, але і патлумачыла, як і на чым лепш даехаць. А ў аўтобусе старэнькая, гадоў за семдзесят, кандуктарка так спрытна штурхалася паміж спрасаванымі, як селядцы ў бочцы, людзьмі, сыпала такімі дасціпнымі заўвагамі і прымаўкамі, што ў аўтобусе панавала нейкая гуллівая, задзірыста-вясёлая і, галоўнае, — добразычлівая атмасфера. А што ўжо казаць пра тых зацікаўленых, адданых сваёй справе людзей, якія паказвалі мне горад. Без іх, несумненна, я шмат чаго б не ўбачыла і не пачула...

Вы, напэўна, таксама ведалі той здзекліва-прыкры жарт-загадку, які вылучаў Оршу з усіх іншых гарадоў Саюза: «У якім горадзе два кінатэатры і тры турмы?» Цяпер, праўда, турмы толькі дзве. Але і кінатэатр застаўся адзіны: другі купілі прадпрымальнікі, адкрылі там ні то краму, ні то кавярню. Так што суадносіны не змяніліся. Праўда, хачу вас парадаваць: з будынка былога езуіцкага калегіума турму, якая існавала яшчэ з царскіх часоў, у 1989 нарэшце перанеслі. У самім будынку плануюць зрабіць мастацкі музей. Але ж вы ведаеце, што такія справы за адзін дзень не робяцца... А на будынку няма ахоўнай дошкі. Так, я памятаю: ахоўныя дошкі — ваш заўсёдны клопат, ваш вечны галаўны боль. Куды б вы ні ехалі — усюды, дзе быў занядбаны помнік архітэктуры, білі ў званы: чаму не ахоўваецца дзяржавай. У вашым родным горадзе бронзавая ахоўная грамата дзяржавы ўмуравана толькі ў гарадзішча, там, на валах замка каралевы Боны... Але... Вы ведаеце, што я ўбачыла, забраўшыся на гэты самы вал? Так, спачатку пераліўчасты, срэбна-залацісты Дняпро амаль што пад нагамі, унізе, маленькую белую Ільінскую царкву на другім беразе... А потым — разабраную тратуарную дарожку, стоячы на якой любавалася краявідам. Вось вам і ахоўная дошка. Я не гарантую, што заўтра здабыткам некаторых руплівых гаспадарлівых аршанцаў не стане і яна. Як тыя тратуарныя пліты...

А памятаеце той стары млын, што недалёка ад замчышча, над замкавым ровам? Пры вашым жыцці ён быў проста закінутым старым домам, што зеўраў пустымі вокнамі і чакаў смерці... Ён цяпер — як лялька. Пафарбаваны ў чырвоны, дагледжаны. У ім — этнаграфічны музей. І мост, старажытны цагляны мост над ровам адрамантавалі. Па ім, калісьці пешаходным, цяпер ездзяць нават грузавікі. Праўда, тратуара няма, і кожны, калі раптам загледзіцца на вірлівую ваду пад мостам, рызыкуе апынуцца пад коламі, ці — у лепшым выпадку, у гэтай самай вадзе. Адкуль у рове бурлівая вада? — спытаеце. Ах, вы ж не ведаеце; па ім цяпер імчыць у Дняпро Аршыца. Яе сапраўднае рэчышча ўжо некалькі гадоў перакрыта: нейкая фірма ўзялася будаваць мост, потым кінула, цяпер, кажуць, знайшлі новых падрадчыкаў. А пакуль цеснавата Аршыцы ў тым рове, ды яшчэ сёлета такія дажджы. Вось і віруе, як горная рака, вымываючы з берагоў вапну (як тут не ўспомніць ваша: «Аршанцы-вапенікі: на вапне любяцца, на вапне родзяцца і ў вапну кладуцца»...). А яшчэ, кажуць, пад мостам ля млына, як і належыць, жыве нячыстая сіла. З'яўляецца ў выглядзе горнай вялікай свінні ці аголенай русалкі. Не скажу, сама не бачыла, але людзі гавораць...

Я, здаецца, пачынаю разумець, чаму вы так мала пісалі пра Оршу. Проста тое, што вы з гневам, іроніяй, сумам пісалі пра іншыя беларускія гарады, пісаць пра родны горад было нясцерпна балюча. Шматлікія помнікі нашага дойлідства, якія выстаялі ўсе войны, былі разбураны «будаўнікамі камунізму» ў 50—60-х. І што з таго, што побач са скляпеннямі царквы Апекі Маці Боскай пабудавалі цяпер маленькую драўляную цэркаўку. Ці заменіць яна тую, што стаяла стагоддзі, аж да 69-га... А Рагвалодаў камень... Ён ляжаў у вёсцы Дзятлава аж з XII стагоддзя. Найкаштоўнейшы помнік каменнага роспісу з дакладнай датай стварэння (на ім быў пазначаны год, месяц і нават дзень). Трохметровы волат стаў ахвярай «ваяўнічага атэізму» 30-х, калі яго разбілі на кавалкі для будаўніцтва дарогі Мінск—Масква. Рэшткі забралі мясцовыя жыхары, і ў падмурках некаторых пабудоў дагэтуль праглядваюць старажытныя славянскія літары... Ці заменіць гэты камень яго паменшаная копія, створаная аршанскімі майстрамі (балазе, захаваліся фотаздымкі і апісанні)? Наўрад ці. Але хаця б нашчадкі будуць ведаць, якім ён быў.

Вы не паверыце, але ў Оршу, у якой калісь было адзінаццаць манастыроў, у сённяшнюю чыгуначную, прамысловую Оршу з дзвюма турмамі, адна з якіх — найбуйнейшая ў СНД (значыць, можна падазраваць, — і ў свеце?), зноў вярнуліся манахі і манашкі. Жанчыны знайшлі прытулак у жылым будынку ля Свята-Ільінскай царквы. Мужчыны — у Куцейне.

Пабыць у Оршы і не з'ездзіць за Дняпро, у Куцейна, — недаравальна. Ды і кожнаму, хто не хоча ці не можа зразумець, якая няўмольная рэч — час, не шкодзіць сёння туды з'ездзіць. Прачытаўшы перад гэтым сёе-тое, што датычыць Куцейна: што была тут з сярэдзіны XVII стагоддзя знакамітая Куцейнская лаўра, у якой былі і вялікі манастыр, і дзве царквы, і мураваная агароджа вышынёй пад два з паловай метры. Што дзесьці тут знаходзілася славутая друкарня Спірыдона Собаля, што з Куцейна пад усім горадам цягнецца сетка падземных хадоў, адзін з якіх, гавораць, вядзе аж да старажытнага замка «Белы Ковель», што за дваццаць кіламетраў ад горада... Ды што я вам гэта пішу, вы ж, пэўна, самі ўсё лепш, чым многія аршанцы, ведалі. А пішу, бадай, дзеля таго, каб зразумелым было расчараванне і адчуванне няўмольнасці часу. Зараз на месцы велічнага Куцейна-Пустка. Стаяць толькі нядаўна адноўленая царква ды жылы манастырскі будынак. Праўда, у мінулым летась у ім на другім, драўляным, паверсе быў пажар, загінулі людзі. Так што відовішча яшчэ больш самотнае: другі паверх складзены з чорных абгарэлых бярвенняў, якія, здаецца, дагэтуль патыхаюць горкім дымам. Захаваўся і невялікі кавалачак той знакамітай агароджы, ён узвышаецца над зямлёй дзесьці на паўметра. Бачыла я і манаха: дзяцюк у спартыўным касцюме не вельмі ветліва спытаў, што мы хацелі... Памятаеце даўнія могілкі ля Куцейна на пагорку, дзе старыя аршанцы спыняліся і маліліся? Іх я не бачыла: знеслі разам з пагоркам у 87-м.

І ўсё ж, ведаеце, у Оршы, у адрозненне ад многіх «чыгуначных» гарадоў, ёсць свой твар. І я адразу гэта зразумела, калі пабачыла Вялікую Раку. Паміралі людзі, мяняліся ўрады, будаваліся і руйнаваліся храмы, — а Дняпро ўсё гэтак жа спакойна нёс свае воды далей на поўдзень. Маўклівы сведка, хвалі якога помняць усё, што, магчыма, даўно забыліся людзі. Праўда, часам са сведкі ён ператвараўся ў лёсавырашальніка горада. Так было, напрыклад, пасля вайны, калі ў Оршы хацелі будаваць аўтамабільны гігант. Але потым прыйшлі да высновы, што малавата гіганту тут вады. Калі б бацька-Дняпро быў трошкі шырэйшы і глыбейшы, — свет ведаў бы не Тальяці і «Жыгулі», а Оршу і... хто яго ведае, як бы называліся нашы, беларускія, легкавушкі...

Ведаеце, дзе вашы землякі паставілі вам помнік? У цэнтры горада, у былым старым парку, амаль на беразе Дняпра. Кажуць, што менавіта дзесьці тут стаяў да вайны дом, дзе жыла ваша сям'я. Помнік вам, думаю, спадабаўся б (наколькі могуць падабацца неправадырам уласныя помнікі). Нічога лішняга: вы нібыта за працай, зусім яшчэ юны, як на той студэнцкай фотакартцы, а побач — некаторыя вашыя героі, сплецены ў адзін барэльеф. Ні пампезнасці, ні грандыёзнасці... Думаю, вы на скульптара не пакрыўдзіліся б і надта моцна з яго не кпілі б...

А яшчэ — не здзіўляйцеся — у Оршы ёсць ваш музей. Праўда, ён існуе толькі як арганізацыя, памяшканне пакуль не гатова, але людзі ўжо працуюць, збіраюць матэрыялы для экспазіцыі. А мясціцца ён будзе ў цэнтры, у старым будынку, што насупраць помніка Леніну. Дзіўнае супадзенне: ужо пасля таго, як было вырашана, што музей будзе менавіта тут, высветлілася, што ў 30-я гады ў гэтым будынку быў радзільны дом і, вельмі магчыма, менавіта ў ім вы з'явіліся на свет...

Я хадзіла глядзець на дом, дзе вы жылі пасля вайны. Мы ішлі з Вольгай, маладзенькай супрацоўніцай вашага музея, па цяністай ціхай вуліцы (яна цяпер носіць ваша імя) і гаварылі пра вас. Вольга са здзіўленнем казала: «Ведаеце, я перабірала кнігі з яго бібліятэкі, а многія з аўтографамі... Ніхто з аўтараў не пісаў яму банальных фраз. Усе звярталіся: «чалавеку, якога я люблю і паважаю», «светламу паэту...»

Маленькі драўляны домік. На рагу вашай вуліцы і яшчэ адной, гэткай самай ціхай і цяністай... «Застаўся я адзін і не ведаю, як мне быць далей. Дома пустыя сцены, і быць мне ў іх пакуль што вельмі цяжка...» Я разумею, чаму, напісаўшы пасля смерці жонкі гэтыя словы, вы прыехалі сюды, у бацькоўскую хату... «Сядзеў на радзіме, у Оршы. І — ані радка. Толькі ўсё думаў і спаў, спаў і думаў...»

Тут цяпер па-ранейшаму жыве ваша пляменніца. У хату я не зайшла: калі б пачала гаварыць пра вас, забылася б, што трэба пісаць пра горад...

Дык вы так і не зразумелі, што мне — Орша? Адкажу вашымі ж словамі. «...сядзеш над празрыстымі водамі, паглядзіш на зарэчныя камяніцы і сады і адчуеш — радзіма. Хай сабе і не жылі тут твае продкі, а — радзіма...»

Я, дарэчы, так сябе паўсюдна на маёй Беларусі адчуваю.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*Орша — Мінск.*

## «ХАЧУ, КАБ МАЕ ВУЧНІ БЫЛІ ЗАПАТРАБАВАНЫЯ ГРАМАДСТВАМ»

**Аляксандр Сядзяка — дырэктар сярэдняй школы № 2 г. Мінска з беларускай мовай навучання. Знаходзіцца школа ў адным з мікрараёнаў сталіцы — у Серабранцы, вучнямі яе з'яўляецца не толькі мясцовая дзятва, але таксама хлопчыкі і дзяўчынкі з іншых раёнаў горада, дзе беларускамоўных школ альбо не было, альбо яны пераведзены на рускую мову навучання.**

**Першага верасня ў другой мінскай школе пачаліся заняткі. Буквар на беларускай мове тут упершыню адкрылі вучні чатырох першых класаў. І праблем з наборам жадаючых вучыцца на беларускай мове, як сказаў дырэктар школы, у іх сёлета не было. Хаця такое становішча далёка не ва ўсіх школах рэспублікі.**

**Як віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы (ТБШ), Аляксандр Сядзяка ведае гэта лепш за іншых. Менавіта таму мы папрасілі яго падзяліцца з чытачамі «Звязды» сваімі думкамі наконт беларускага школьніцтва, наконт таго, кім бачаць сябе ў будучыні яго цяперашнія вучні.**

— Я мог бы адчуваць сябе шчаслівым чалавекам, калі б ведаў, што беларусізацыя ў краіне пайшла ўглыб і ўшыркі. На жаль, гэта пакуль не так. Таму што наша школа, хутчэй, выключэнне з правілаў. У 1997 годзе толькі сем працэнтаў першакласнікаў было прынята ў беларускамоўныя класы. А ў сярэднім па краіне 30 працэнтаў займаюцца ў беларускіх школах. А мова ж — адзін з асноўных кампанентаў менталітэту нацыі. Не верыцца, што ўсяго некалькі гадоў таму ў беларускамоўныя класы паступілі вучыцца 70 працэнтаў вучняў.

Недальнабачнасць такой моўнай палітыкі наша дзяржава, безумоўна, зразумее. І будзе гэта хутка, калі грамадства пачне адчуваць дэфіцыт людзей пісьменных (па-беларуску), працуючых на ніве нацыянальнай культуры.

Іншым разам мяне апаноўвае страх за тое, як складзецца лёс выпускнікоў маёй школы. Ці знойдуць яны сябе ў грамадстве, ці будуць запатрабаваныя ім? І гэта не беспадстаўная трывога. Таму што пашана да беларускасці ў нас, на мой погляд, існуе ў многім пакуль толькі як да арнаментальнасці (у якасці песень, танцаў), а не як існасці нацыі. Вазьміце хаця б тое, што ў Беларусі ні многія парламентарыі, ні многія высокія дзяржаўныя чыноўнікі не абцяжарваюць сябе гаворкай па-беларуску.



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

Сем гадоў я крочу па жыцці разам са сваімі вучнямі. Нядаўна яны пісалі сачыненне на тэму «Мая радзіма — Беларусь». Мяне ўразіла тое, як 12-13-гадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі любяць сваю зямлю, як добра ведаюць і шануюць гісторыю, і наколькі шчырае іх жаданне бачыць свой народ у радасці і шчасці. Думаю, што пры ўсіх цяперашніх цяжкасцях, за імі — будучыня.

**Таццяна АНТОНАВА.**



## ПА... НАБІ...

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).***

43 рэспубліканскія выданні. У асноўным гэта беларускамоўныя, дзіцячыя, літаратурна-мастацкія і навукова-метадычныя газеты і часопісы. Сярод іх газеты «Звязда», «Настаўніцкая газета», «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», часопісы «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Беларусь», «Народная асвета», «Пачатковая школа».

Усяго ў 1997 годзе выпушчана 5331 назва кніжнай прадукцыі агульным тыражом 67,6 млн. экземпляраў, у тым ліку дзяржаўнымі выдавецтвамі — 691 кніга і брашура тыражом 11,2 млн. экземпляраў. Калі разглядаць выданне кніг і брашур у рэспубліцы за апошнія гады па тэматычнаму накірунку, то трэба адзначыць павелічэнне колькасці навукова-папулярнай, вытворчай, дзіцячай, даведачнай літаратуры і памяншэнне колькасці навуковых, вучэбна-метадычных, інфармацыйных і рэкламных выданняў.

Так, штогод адно з вядучых выдавецтваў рэспублікі «Беларуская Энцыклапедыя» вызначаецца выпускам арыгінальнай, унікальнай па свайму зместу энцыклапедычнай і даведачнай літаратуры. У 1996 годзе былі выдадзены: «Белорусский орнамент», «Чарнобыль», два чарговыя тамы з 18-томнай «Беларускай Энцыклапедыі». Адным з цікавых пачынанняў стаў выпуск «Энцыклапедычнай бібліятэчкі школьніка».

Сярод іншых выданняў адзначу другі выпуск факсімільнага выдання «Наша Ніва», «Паміж Масквой і Варшавай» В. Іпатавай, «Прошча» У. Някляева, «Вершы» Цёткі, «Казкі дзяцей Беларусі», «Беларускі фальклор. Хрэстаматыя», якія выйшлі ў выдавецтвах «Беларуская навука», «Полымя», «Мастацкая літаратура», «Юнацтва».

Трэба падкрэсліць, што дзяржава падтрымлівае кнігавыдавецкую дзейнасць у рэспубліцы. Удасканальваецца заканадаўчая база выдавецкай дзейнасці, распрацаваны праект Дзяржаўнай праграмы мадэрнізацыі і развіцця паліграфічнай прамысловасці Рэспублікі Беларусь у 1997—2001 гадах. З дзяржбюджэту фінансуецца выпуск падручнікаў, гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», выданне кніг серыі «Школьная бібліятэка», беларускамоўных выданняў рознага тэматычнага накірунку. А таксама прадугледжаны льготы для выдавецтваў і друкарняў па выпуску вучэбнай і метадычнай літаратуры з беларускамоўных выданняў.

## Эканамічныя паказчыкі прадпрыемства за 7 месяцаў 1998 года

*Выраблена прадукцыі на 717.601.000.000 рублёў.*
*Тэмпы росту склалі 110,7 працэнта.*
*Рэалізавана прадукцыі на 784.019.000.000 рублёў.*
*Выраблена тавараў народнага спажывання на 82.480.000.000 рублёў (тэмпы росту 17,8 працэнта).*
*Тэмпы росту прадукцыйнасці працы — 117,9 працэнта.*
*Сярэдняя заработная плата за ліпень — 5.237.000 рублёў.*
*Затраты на адзін рубель таварнай прадукцыі — 80,4 кап.*
*Рэнтабельнасць (за ліпень) ад вытворчасці — 24,4 працэнта; ад рэалізацыі — 34,7 працэнта.*
*Балансавы прыбытак — 207.253.000.000 рублёў.*
*У распараджэнні прадпрыемства з яго засталося 130.071.000.000 рублёў.*
*Тэмпы росту экспарту (у параўнанні з леташнім перыядам) — 106 працэнтаў; імпарту — 73,4 працэнта.*
*Каэфіцыент бягучай ліквіднасці — 7,017.*
*Запазычанасці перад бюджэтам, па плацяжах за электраэнергію і газ — няма.*

**З людзьмі гэтага прадпрыемства, іхнімі працоўнымі набыткамі кожны раз я знаёмлюся з вялікім задавальненнем і ахвотай. І — радасцю. Радасцю за калектыў, які, дзякуй Богу, у цяперашніх неймаверна складаных, неадназначных, супярэчлівых умовах рэчаіснасці здолеў выстаяць. І не толькі выстаяў, а змог знайсці невядома адкуль (невядома, зразумела ж, для нас, староніх назіральнікаў!) унутраныя рэзервы, магчымасці, каб не толькі ўтрымацца, а і пайсці наперад, да новых, невядомых раней рубяжоў.**

**Напісаў вось такія гучныя словы — і злавіў сябе на думцы: а ці не перабольшваю я, ці не занадта злоўжываю пахвалой — ды яшчэ, па сутнасці справы, тымі эпітэтамі, якія «падводзілі» нашага брата, журналіста, яшчэ зусім нядаўна?.. Прызнаюся: доўга, на працягу некалькіх тыдняў, браўся я за паперу, каб напісаць пра гэтае прадпрыемства, а творчы працэс неяк не атрымліваўся, чаго, дарэчы, не здаралася са мной раней.**

**Я здагадаўся, нарэшце, чаму не атрымліваўся. Адвыклі мы — і гэта адназначна! — казаць сёння шчырае, цёплае, заслужанае слова пра таго, хто ўмее і хоча працаваць. І — працуе!**

**Калектыў барысаўскага завода «Аўтагідраўзмацняльнік» — адзін з тых, хто ўмее і хоча працаваць!**

**І — працуе!**



■ Слесары-зборшчыкі Генадзь КАНДРАТОВІЧ, Валянціна ВАЛЧКОВА, Алена ЛАЎРЫНОВІЧ, Мікалай ГАЎРЫЛЬЧЫК (брыгадзір) і Валянціна АРЛОЎСКАЯ.

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# «АЎТАГІДРАЎЗМАЦНЯЛЬНІК» ЗАВАЁЎВАЕ МІЖНАРОДНЫЯ РЫНКІ

**Кажуць, што лічбы** — рэч сухая. Аднак эканамічныя паказчыкі «Аўтагідраўзмацняльніка» ў сёлетнім годзе сведчаць самі за сябе: прадпрыемства, што называецца, на ўздыме.

Сёння, тым не менш, гаворку на старонках «Звязды» мы павядзём крыху ў іншым, чым звычайна, ракурсе. А справа вось у чым. За работу «Стварэнне канструкцыі і асваенне вытворчасці гідрасістэм рулявога кіравання з малагабарытнай помпай і механізмам інтэгральнага тыпу для легкавых і грузавых аўтамабіляў з нагрузкай на кіруемую вось да 1200 кгс» група работнікаў завода вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Сама назва работы, а тым больш яе змест неспецыялісту гаворыць вельмі і вельмі мала. А вось сутнасць справы можа зразумець літаральна кожны. Спецыялісты «Аўтагідраўзмацняльніка» распрацавалі і ўкаранілі ў масавую вытворчасць рулявыя механізмы інтэгральнага тыпу для ўстаноўкі на легкавыя і грузавыя аўтамабілі павышанай камфортнасці і праходнасці.

За кожнай распрацоўкай, навукова-тэхнічным пошукам, а тым больш — знаходкай, стаяць канкрэтныя людзі: энтузіясты і шукальнікі — таленавітыя, няўрымслівыя, неспакойныя душой і сэрцам. На барысаўскім прадпрыемстве іх дзесяткі. І калі я бліжэй пазнаёміўся з некаторымі з іх, стала (нікольні не перабольшваю!) радасна на душы: мы, беларусы, шмат што можам і ўмеем, шмат на што здатныя...

Такім чынам, слова ім, канструктарам і стваральнікам прынцыпова новых механізмаў для самай сучаснай аўтамабільнай тэхнікі:

**Гаворыць Анатоль ФЯНЬКО — галоўны канструктар завода:**



— З самага пачатку сёлетняга года аддзелам галоўнага канструктара нашага прадпрыемства была распрацавана і зацверджана дырэкцыяй «Праграма стварэння новай і мадэрнізаванай прадукцыі для аўтамабільнай, дарожнай і трактарнай тэхнікі». Яна ўключае ў сябе правядзенне доследна-канструктарскіх работ па наступных накірунках:

- распрацоўка і ўкараненне цэлай гамы рулявых механізмаў для легкавых, грузавых аўтамабіляў і трактарнай і дарожнай тэхнікі;
- стварэнне сямейства малагабарытных помпаў і гідрацыліндраў;
- распрацоўка тыпа-размернага рада масленых бачкоў гідрасістэмы з фільтрам тонкай ачысткі і датчыкам узроўню масла.

Першы — галоўны этап праграмы — мы выканалі даволі хутка і паспяхова. Створаны канструкцыі і асвоена вытворчасць гідрасітэм рулявога кіравання для аўтамабіляў Горкаўскага аўтазавода «ГАЗ-3102», «ГАЗ-3110», «Газель»,»Собаль» і легкавых аўтамабіляў Ульянаўскага аўтазавода.

У састаў гідрасістэмы ўваходзяць рулявы механізм інтэгральнага тыпу, помпа гідраўзмацняльніка руля і маслены бачок з фільтрам тонкай ачысткі. Выпрабаванні іх на легкавых аўтамабілях «ГАЗ» і «УАЗ» прайшлі даволі паспяхова, і Горкаўскі і Ульянаўскі аўтазаводы зацвердзілі рашэнні аб устаноўцы нашых вырабаў на перспектыўных мадэлях сваіх аўтамабіляў. Цяпер працягваюцца выпрабаванні гідраўзмацняльнікаў на аўтамабілях «Газель», «Собаль» і «Люблін-БелАЗ».

Кампанаваныя схемы помпы гідраўзмацняльніка руля і рулявых механізмаў дазволілі забяспечыць іх выкананне кампактна і магчымасць устаноўкі ў абмежаванай прасторы на серыйных аўтамабілях.

Сучаснасць і прагрэсіўнасць нашых рашэнняў і распрацовак відавочныя. Яны абаронены двума патэнтамі Расійскай Федэрацыі і чатырма — Рэспублікі Беларусь.

На другім этапе рэалізацыі вышэйпамянёнай праграмы запланавана стварэнне і ўкараненне ў вытворчасць рулявых механізмаў інтэгральнага тыпу на вялікагрузных аўтамабілях «МАЗ», «КАМАЗ», аўтобусах «АМАЗ». Першыя доследныя ўзоры ўжо выраблены і пастаўлены ў вытворчае аб'яднанне «БелаўтаМАЗ» для правядзення папярэдніх выпрабаванняў.

Для перспектыўных легкавых аўтамабіляў «ГАЗ» цяпер праводзім доследна-канструктарскія работы па стварэнню рэйкавага рулявога механізма з гідраўзмацняльнікам. Доследныя ўзоры будуць пастаўлены Горкаўскаму аўтазаводу для правядзення выпрабаванняў у кастрычніку гэтага года.

Выкананне праграмы дазволіць аўтамабільным заводам абысціся без выкарыстання гідрасістэм рулявога кіравання замежных фірмаў і адначасова забяспечыць патрабаванні міжнародных стандартаў па лёгкасці кіравання і бяспецы руху аўтамабіля, а па свайму тэхнічнаму ўзроўню яны не будуць уступаць перадавым замежным аналагам.

**Ігар ВАЛКАВЕЦ, начальнік аддзела развіцця і новай тэхнікі прадпрыемства, дадае:**



— Завод «Аўтагідраўзмацняльнік» з'яўляецца спецыялізаваным прадпрыемствам па выпуску гідравузлоў рулявога кіравання для легкавых і грузавых аўтамабіляў, аўтобусаў, тралейбусаў і дарожна-будаўнічых машын. У гэтай галіне вытворчасці прадпрыемства займае вядучае месца сярод аўтамабілебудаўнічых заводаў краін СНД.

Працяглы час завод выпускаў гідраўзмацняльнікі рулявога кіравання і помпы толькі для вялікагрузных аўтамабіляў па чарцяжах заводаў-спажыўцоў («МАЗ», «БелАЗ», «КрАЗ», «ГАЗ», «КАМАЗ» і інш.), і толькі пачынаючы з 90-х гадоў, апынуўшыся ў сітуацыі, аналагічнай з канверсійнымі заводамі, прыступіў да ўласнай распрацоўкі і выпуску зусім новай прадукцыі — гідрасістэм рулявога кіравання з механізмам інтэгральнага тыпу, малагабарытнай помпай і бачком з фільтруючым элементам тонкай ачысткі масла.

Для асваення вытворчасці гэтых гідрасістэм спатрэбілася выканаць вялікі аб'ём работ па тэхнічнаму пераўзбраенню прадпрыемства. Важнейшай задачай пры гэтым было знайсці рэальныя крыніцы фінансавання праекта. У цяперашніх умовах работы завода гэта было магчыма толькі за кошт наяўнасці ўласных сродкаў, часткі сродкаў інавацыйнага фонду Міністэрства прамысловасці Беларусі і за кошт крэдытавання. Аднак атрымаць крэдыты ў банках рэспублікі было практычна немагчыма. І толькі ўступіўшы ў члены фінансава-прамысловай групы «Ніжагародскія аўтамабілі», галоўнай задачай утварэння якой з'яўляецца павелічэнне вытворчасці і паляпшэнне якасці запатрабаванай рынкам прадукцыі, наш завод атрымаў неабходныя сродкі і за кароткі час выканаў першую чаргу інвестыцыйнага праекта.

Сэнс гэтага праекта заключаўся ў мэтавым крэдытаванні АўтаГАЗбанкам беларускага дзяржаўнага прадпрыемства «Аўтагідраўзмацняльнік» пад гарантыі адкрытага акцыянернага таварыства «ГАЗ». Грошы, атрыманыя нашым заводам, і былі накіраваны на набыццё асабліва складанага абсталявання, на якім у цяперашні час і выпрабляюцца ўзмацняльнікі інтэгральнага тыпу для аўтамабіляў новых пакаленняў.

Стабільнасць якасці выпускаемых вузлоў забяспечваецца стопрацэнтным кантролем на спецыяльных выпрабавальных стэндах. Адным словам, спалучэнне перадавых канструктарскіх рашэнняў, высокага тэхнічнага ўзроўню вытворчасці, прагрэсіўных формаў арганізацыі працы і гарантуе стабільную высокую якасць і канкурэнтаздольнасць гідрасістэм рулявога кіравання з малагабарытнай помпай і механізмам інтэгральнага тыпу.

**Слова Аляксандру САВІЦКАМУ, начальніку канструктарскага бюро рулявых механізмаў:**



— Канструкцыя гідрасістэмы, што складаецца з механізма рулявога кіравання з гідраўзмацняльнікам інтэгральнага тыпу, малагабарытнай помпы ўзмацняльніка руля і масленага бачка з фільтруючым элементам, уніфікаваная і можа ўстанаўлівацца на аўтамабілі розных мадыфікацый, якія выпускаюцца зараз, а таксама на перспектыўных грузавых і поўнапрыводных легкавых джыпах. Усе складаемыя гідрасістэмы распрацаваны намі і да цяперашняга часу на тэрыторыі краін СНД не выпускаліся. Па сваіх тэхнічных характарыстыках гідрасістэма «Аўтагідраўзмацняльніка» знаходзіцца на ўзроўні лепшых сусветных аналагаў. Закладзеная ж у канструкцыю інтэгральная схема рулявога механізма з гідраўзмацняльнікам з убудаваным тангенцыяльным размеркавальнікам ротарнага тыпу з рэактыўнымі камерамі і тарсёнам з'яўляецца найбольш кампактнай і адпавядае перадавым накірункам развіцця гэтай галіны тэхнікі і на перспектыву.

**Каментарый дырэктара завода «Аўтагідраўзмацняльнік» Аляксандра ПУХАВОГА:**



— Нашаму прадпрыемству — 31 год. Да распаду Саюза ССР ён быў буйнейшым заводам па выпуску агрэгатаў гідрасістэм рулявога кіравання для ўсіх заводаў сістэмы Міністэрства аўтамабільнай прамысловасці краіны. Жылі, што называецца, на поўным дзяржаўным забеспячэнні і праблем, па сутнасці, не ведалі: за нас думалі там, «наверсе».

Але вось прыйшоў іншы час. Апынуўшыся ва ўмовах рынку, прычым, на першым этапе, рынку дзікага, усяму нашаму калектыву давялося зведаць і ўзрушэнні, і спад вытворчасці, і іншыя непаладкі і недахопы. Дзякуй Богу, здолелі выстаяць, сабрацца з сіламі, мабілізавацца і пайсці далей, наперад.

У аснове нашых цяперашніх набыткаў, у першую чаргу, наяўнасць на прадпрыемстве выдатнай інжынерна-тэхнічнай службы, высокакваліфікаваных кадраў: канструктараў, спецыялістаў, рабочых. Гэта дзякуючы ім за кароткі тэрмін удалося стварыць і асвоіць вытворчасць прынцыпова новай прадукцыі. Дык хіба нельга не ганарыцца такімі людзьмі?!

Аўтамабілі Горкаўскага і іншых аўтазаводаў з нашымі гідрасістэмамі рулявога кіравання становяцца па надзейнасці і лёгкасці кіравання на адзін узровень са славутымі «Мерседэсамі». І гэта зусім не перабольшанне: такую выснову зрабілі самыя буйныя спецыялісты з многіх краін, аддаўшы перавагу нашай прадукцыі ў барацьбе і жорсткай канкурэнцыі з фірмамі Германіі і Англіі. Менавіта ў іх мы выйгралі тэндэрныя выпрабаванні, і «ГАЗ» аддаў нам перавагу. Такім чынам, рынак Расіі, а ў перспектыве — і іншых краін СНД намі заваяваны.

Скажу больш. Ужо ў самы бліжэйшы час мы выходзім і на больш дальняе замежжа. Заключаны кантракт з адной з нямецкіх фірмаў на пастаўку нашай прадукцыі, дасягнута практычная дамоўленасць з польскімі вытворцамі аўтамабіляў. Так што паводлі але — упэўнена мы павінны выйсці на міжнародную арэну.

Створаная канструкцыя гідрасістэмы рулявога кіравання з малагабарытнай помпай і механізмам інтэгральнага тыпу для легкавых і грузавых аўтамабіляў адпавядае самаму сучаснаму тэхнічнаму ўзроўню. Вядома, мяжы дасканаласці няма. І мы будзем працаваць над паляпшэннем характарыстык канструкцыі. Умовы для гэтага ёсць: як тэхнічныя, тэхналагічныя, так і патэнцыял творчай думкі. Нас радуе тое, што прадукцыю высока цэняць спажыўцы, а на пытанне «За што?» прэзідэнт адкрытага акцыянернага таварыства «Горкаўскі аўтамабільны завод» Мікалай Пугін адказвае заўсёды коратка і ясна: «За якасць і надзейнасць».

А ад сябе «Звязда» дадасць: за якасць і надзейнасць, што адпавядаюць лепшым сусветным узорам!

**Старонку падрыхтавалі:**
**Анатоль МЯСНІКОЎ,**
**Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

■ Начальнік бюро аддзела механізацыі і аўтаматызацыі Сяргей БЯЛЕВІЧ і выпрабавальнік Аляксандр ВІШНЕЎСКІ.

## АСЕННІЯ НАРЫХТОЎКІ



### Салаты з агародніны

#### Буракі з хрэнам

*На 10 паўлітровых слоікаў: 1,6 кг буракоў, 590 г хрэну, 350 г алею, 155 г цукру, 75 г солі, 3 г чорнага молатага перцу, 250 г 9-працэнтнага воцату.*

Вымытыя свежыя буракі замачыце ў халоднай вадзе на 24 гадзіны. Хрэн аблупіце і здрабніце на тарцы або мясарубцы. Падрыхтаваныя буракі і хрэн пакладзіце ў эмаліраваную каструлю, дабаўце соль, цукар, перац, нагрэты да белага дыму алей. Сумесь добра перамяшайце, нагрэйце да 70—75°, зніміце з агню і дабаўце воцат. Яшчэ раз добра перамяшайце і гарачую разлажыце ў сухія падагрэтыя слоікі. Слоікі накрыйце накрыўкамі і пастаўце ў каструлю з вадой, нагрэтай да 60°, для пастэрызацыі.

#### Ікра з цыбулі

*На 1 кг цыбулі: 300—400 г падрыхтаваных таматаў або 40 г таматнага соусу, 40—60 г алею, зяляніна кропу і соль па смаку.*

Палову падрыхтаванай цыбулі нарэжце кружочкамі таўшчынёй 3—5 мм і абсмажце да залацістага колеру ў прагрэтым алеі. Другую палову цыбулі нарэжце і abліце кіпенем. Абсмажаную і прабланшыраваную цыбулю прапусціце праз мясарубку і пакладзіце ў эмаліраваную каструлю. Дабаўце нарэзаныя лустачкамі таматы без скуркі або таматны соус і алей. Сумесь пасаліце, і перамяшайце і ўварвайце пры частым памешванні 20—25 хвілін, пакуль яна стане аднароднай, густой, без прымет свабоднага выдзялення вадкасці. У канцы ў масу дабаўце свежы зялёны кроп і перамяшайце яшчэ раз.

Гатовай ікрой напоўніце слоікі, накрыйце накрыўкамі і ўстаўце ў каструлю з вадой для стэрылізацыі.

#### Ікра з агародніны

*Для прыгатавання 1 кг ікры спатрэбіцца: 500 г буракоў, 200 г морквы, 100 г цыбулі, 150 мл алею, 100 г таматаў, 4 мл 9-працэнтнага воцату, перац і соль па смаку.*

Падрыхтаваныя буракі, моркву і цыбулю прапусціце праз мясарубку, пакладзіце ў эмаліраваную каструлю, добра перамяшайце і тушыце ў духоўцы 1,5—2 гадзіны. Тушаную агародніну вылажыце на патэльню, дабаўце алей, перац, соль і абсмажце на слабым агні 30—40 хвілін, пасля чаго дабаўце нарэзаныя таматы або тамат-пюрэ, воцат і смажце яшчэ 10—15 хвілін. Гатовую сумесь разлажыце ў сухія нагрэтыя слоікі, накрыйце і стэрылізуйце ў вадзе, нагрэтай да 70°.

Час стэрылізацыі пры 100° для паўлітровых слоікаў — 40 хвілін, літровых — 60 хвілін.

## ВАЗЬМІЦЕ НА ЗАМЕТКУ

### Як прыгатаваць фруктовы воцат?

Выкарыстоўваючы лупіны і ачысткі фруктаў, можна ў хатніх умовах атрымаць у любы час года вітамінны 5-працэнтны воцат, прыдатны для прыгатавання вінегрэту, салаты, хрэну.

Перад апрацоўкай фрукты абавязкова прамыйце халоднай гатаванай вадой. Вазьміце ёмістасць з шырокай гарлавінай, прастэрылізуйце над парай. Лупіны яблыкаў, груш і іншых фруктаў здрабніце і заліце халоднай вадой у суадносінах 1:1. На 1 л вадкасці і 1 кг нарыхтовак вазьміце 200 г цукру. Пастаўце ёмістасць, закрытую марляй у некалькі слаёў, так, каб не траплялі прамыя сонечныя прамяні. Аптымальная тэмпература — пакаёвая. Актыўны працэс браджэння ідзе дзесяць дзён, затым вадкасць працадзіце, адцісніце і зноў пастаўце на месяц для атрымання 5-працэнтнага воцату. Вадкасць стабілізуецца, становіцца светлай — значыць воцат паспеў. Адфільтруйце яго праз вату і пастаўце ў халаднаватае месца.

-1402-

## САМ САБЕ МАЙСТАР

### Рамантуем шыферны дах



Шыферныя дахі даўгавечныя, мароза- і вогнеўстойлівыя, але праходзіць 12—15 гадоў, і шыфер усё ж пачынае старэць: з'яўляюцца трэшчыны, адколы. Дах неабходна рамантаваць.

Традыцыйна раней дах абчышчалі, мылі, сушылі, грунтавалі пакостам, а затым усе трэшчыны пакрывалі палоскамі з тканіны, прамочанымі алейнымі фарбамі. Пасля гэтага дах іншы раз фарбавалі гэтай жа фарбай. Такі рамонт працягваў жыццё шыферу на 2—4 гады, а затым усё пачыналася спачатку.

Прапануем больш просты і надзейны метад рамонту шыферу, пасля якога дах «жыве» да 10 гадоў.

Для яго спатрэбяцца наступныя матэрыялы: клей ПВА, цэмент маркі 300 і вышэй, распушчаны азбест і вада. Калі няма клею ПВА, можна выкарыстаць водаэмульсійныя марозаўстойлівыя фарбы, але пры гэтым крыху паніжаецца даўгавечнасць даху. Калі адсутнічае распушчаны азбест, то на дробнай тарцы для агародніны націраюць ліставы.

Сумесь для рамонту рыхтуюць невялікімі порцыямі на 2-3 гадзіны работы. Змешваюць 1-2 часткі (па аб'ёму) цэменту з 3 часткамі азбесту і разводзяць клеем ПВА, разбаўленым вадой у суадносінах 1:1 (водаэмульсійную фарбу вадой не разбаўляюць). Сумесь павінна мець кансістэнцыю смятаны.

Перад рамонтам дах абмятаюць, абчышчаюць месцы, пакрытыя занесенай зямлёй, лішайнікам, затым мыюць струменем вады са шланга. Асабліва старанна абчышчаюць шчоткай месцы з трэшчынамі.

Пасля прасушкі дах грунтуюць клеем ПВА, разведзеным вадой у суадносінах 1:3. Рамонт заключаецца ў прамазванні трэшчын падрыхтаванай сумессю. Звычайна наносяць два слоі сумесі (другі — пасля высыхання першага), каб агульны слой быў таўшчынёй не менш чым 2 мм.

Дах рэкамендуецца рамантаваць у пахмурнае надвор'е.

## АЎТАМАБІЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

### Як даглядаць машыну



**Сродкаў для догляду за машынай цяпер у продажы вельмі многа. Аднак каштуюць усе яны нятанна. Таму нядрэнна ведаць некаторыя рэчы, якія дазволяць вам зэканоміць на іх.**

- Для мыцця машыны добра дабавіць у ваду крыху газы. Пасля таго як машына будзе памытая, пратрыце яе мяккай тканінай. Аўтамабіль будзе мець бездакорны выгляд. Акрамя таго, дабаўка газы да вады памяншае карозію кузава.
- Бруд з ветравога шкла, фараў і храміраваных дэталяў машыны лепш за ўсё выдаляецца губкай, намочанай у звычайнай мыльнай вадзе. Пасля гэтага ачышчаныя ўчасткі неабходна старанна апаласнуць.
- Рэшткі насякомых, якія разбіліся аб ветравое шкло, добра здымаюцца пластмасавай сеткай для ўпакоўкі агародніны.
- Калі вы вырашылі выдаліць старыя наклейкі, то намачыце іх воцатам і асцярожна пачынайце счышчаць. Пры неабходнасці паўтарыце намочванне. Можна скарыстаць і лімонную эсенцыю.
- Каб выдаліць з машыны плямы ад смалы, іх трэба намачыць алеем, пачакаць, пакуль яны размякнуць, а затым сцерці анучкай, намочанай алеем. Для гэтай мэты можна скарыстаць і газу.

-1403-

### УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

## Блізнятам і ў сённяшні складаны час удасца някепска зарабіць

Ва ўладзе КАЗЯРОГА надаць развіццю падзей жаданы напрамак. Нават у цяперашняй нялёгкай для Расіі фінансавай сітуацыі вы маеце рэальны шанц быць паспяховым. На ваш бок пераходзяць былыя нядобразычліўцы. Ваш аптымізм сапраўды ўсепераможны. Падкупляе ваша ўменне з разуменнем ставіцца да слабасцяў навакольных.

ВАДАЛЕЙ крыху заклапочаны нейкай замарочкай у справах. Рызыкуеце паддацца паніцы і страціць правільную арыентацыю. Вас можа наведаць душэўная дэпрэсія, таму кантралюйце эмоцыі. На гэтым этапе вам крайне патрэбны дзелавы партнёр. Ваша галоўнае суцяшэнне цяпер — пяшчотная адданасць блізкага чалавека. Бойцеся ненаўмысна пакрыўдзіць яго.

РЫБЫ, будзьце пільнымі на гэтым тыдні! Астролаг не выключае верагоднасць нейкай змовы з мэтай пусціць пад адхон ваша асабістае жыццё. Калі магчыма, бярыце дзелавыя паперы дамоў і праводзьце максімум часу ля сямейнага ачага. Дамы саб'юцца з ног, прымаючы шматлікіх гасцей. Здаецца, вам трэба адхіліць патрабаванні вельмі надакучлівага прыхільніка.

У АВЕНА наперадзе дадатковыя нагрузкі на рабоце і дома. Хутчэй за ўсё, вам прыйдзецца часова забыць і пра мінутную перадышку. Як уяўляецца астролагу, ваша галоўная задача на сёння — дакладна вытрымліваць дзелавы графік, інакш вас захлісне лавіна праблем. Ні аб чым хвалявацца не трэба, становішча мяняецца да лепшага.

Большасць ЦЯЛЬЦОЎ, асабліва якія нарадзіліся ўначы або да ўсходу сонца, змогуць умацаваць свае пазіцыі па ўсіх напрамках. Зоркі і планеты дапамогуць вам зрабіць удалую здзелку, звязаную з нерухомасцю. Прадпрымальнік у малым бізнесе паспяхова пераадолее паласу крызісу. Рызыкуеце ўвязацца ў сексуальны скандал, небяспечны імпічментам.

БЛІЗНЯТАМ, як відаць, і ў гэты ліхі час удасца нядрэнна зарабіць. Нават бомж мае рэальны шанц хоць на час адчуць сябе забяспечаным чалавекам. Галоўнае пры гэтым — не адмаўляцца ні ад якой работы. Калі ваша маці жывая, абавязкова прынясіце ёй букет кветак, калі памерла — абавязкова наведайце яе магілу.

У РАКА на першы план выходзяць духоўна-філасофскія матывы. Зварот да вечных каштоўнасцяў — любові і дабрыні — зробіць сапраўды прасветланай вашу душу. Вы маеце шанц уступіць у кантакт са сваімі сіламі, якія выступаюць ад асобы вялікага імя. Вельмі магчыма, што ў кагосьці праявяцца здольнасці яснабачання. Звядзіце да мінімуму мясную ежу, алкаголь і плоцкія ўцехі.

Многія ЛЬВЫ цалкам могуць стаць любімцамі фартуны. Становішча свяціл на вашым персанальным астралагічным небасхіле настолькі спрыяльнае, што вам не грэх рызыкнуць у гульні выпадку, таму купіце пару тузінаў латарэйных білетаў або зрабіце стаўку на бягах. Пры гэтым важна не паддацца азарту — дастаткова атрымаць першы выйгрыш.

Для ДЗЕВЫ першыя тры дні тыдня — выключна спрыяльны перыяд. «Цяжкі» для многіх панядзелак азнамянуецца вельмі станоўчымі зрухамі. Сапраўднай удачай можа стаць нейкі тэлефонны званок. Паступіць вельмі заманлівая дзелавая прапанова, рэалізацыя якой прынясе добры прыбытак. Дама, як відаць, ажыццявіць даўно задуманую пакупку.

ШАЛЯМ не прыйдзецца скардзіцца на лёс, бо на абедзвюх чашах — поспех, прыемныя паведамленні і невялікія, але стабільныя даходы. У першую чаргу поспех чакае рабочых-металістаў, усю пішучую братву, агенатаў турыстычнай фірмы і рэкламнага бюро. Не бойцеся дадатковых нагрузак на рабоце — аддача будзе адпаведнай. Намячаецца вельмі «круты» рамантычны ўзлёт.

Намаганні СКАРПІЁНА будуць узнагароджаны па ўсіх напрамках. Можаце ва ўсім спадзявацца на даўняга праверанага партнёра, што не пазбаўляе вас ад неабходнасці ўласнага старання. Можа напаткаць нейкі комплекс няўпэўненасці — адкіньце яго неадкладна, бо ён нічым не апраўданы. Неасцярожныя паводзіны дамы могуць уцягнуць яе ў двухсэнсоўную сітуацыю.

У СТРАЛЬЦА вельмі насычаны падзеямі тыдзень. Як уяўляецца астролагу, адбудзецца нямала змен, прычым усе будуць на вашу карысць. Народжаныя пад вашым знакам задыяка ператворацца ў вельмі папулярных персон. Вы становіцеся незалежнымі як на рабоце, так і ў асабістым жыцці. Вечары з блізкім чалавекам будуць сапраўды чароўнымі.

## СЛУЖБА ЗДАРОЎЯ



### Сродак ад дэпрэсіі

Яшчэ ў старажытнасці святаяннік (зверобой) лічылі лякарствам «супраць страху і дурных думак». І сапраўды, калі настрой на нулі, лепшага сродку, чым чай са святаянніку, не знайсці. Піць яго трэба па 2-3 шклянкі ўдзень і шклянку перад сном.

Святаяннік садзейнічае выпрацоўцы сератаніну, які называюць «гармонам шчасця».

### Халодны душ для імунітэту

Падрыхтаваць свой арганізм да наступлення халадоў нескладана. Прымаючы звычайны ранішні душ, адключыце гарачую ваду і накіруйце струмень халоднай вады так, каб яна ўдарыла вам пад грудзі. Гэта дапаможа стымуляваць работу цэнтральнага органа імуннай сістэмы — тымуса (або вілачкавай залозы), які размешчаны якраз пад грудзінай, і тым самым умацаваць ахоўныя сілы вашага арганізма.

## ДЛЯ ВАШАЙ КАРЫСЦІ

### Сябры і ворагі памяці



Наш мозг лепшы за любы камп'ютэр, а наша памяць здольная змясціць бібліятэку са... 100 тысяч тамоў. Але даволі часта мы пакутуем ад забыўчывасці. 90 працэнтаў усіх людзей незадаволеныя сваёй памяццю. Бясспрэчна, стрэсы, спешка, перагрузкі — усё гэта прычыны забыўчывасці. Але самы вялікі вораг памяці — тэлевізар. Той, хто вольны час бавіць перад «скрынкай», літаральна паралізуе свой мозг. Што ж рабіць, каб перамагчы забыўчывасць?

**Практыкаванні для пальцаў.** Барабаньце пальцамі па стале так, быццам вы граеце на піяніна або друкуеце на машынцы. Гэтае няхітрае практыкаванне стымулюе мысліцельны працэс. Штодзённыя 10-хвілінныя практыкаванні прывялі да таго, што за паўгода вучні адной са школ сталі намнога лепш вучыцца.

**Канцэнтрацыя**. Той, хто выконвае адначасова некалькі спраў, напрыклад, звоніць па тэлефоне і глядзіць тэлевізар, робіць не зусім правільна. Сканцэнтруйцеся на нечым адным. Калі вы жадаеце звярнуць на нешта асаблівую ўвагу, мысленна разы два паўтарыце, на што яе нацэльваеце.

**Чытанне**. Хаця б дзве гадзіны на тыдзень прысвячайце чытанню кніг. Пасля таго як закончыце чытанне, паспрабуйце мысленна пераказаць сабе прачытанае.

**Штодзённыя трэніроўкі.** Збіраючыся ў магазін, напішыце сабе спіс таго, што вы павінны набыць, але ў магазіне не заглядвайце ў спіс. І толькі калі ўсё неабходнае будзе куплена, зверцеся са спісам.

Перш чым разлічыцца за пакупкі, мысленна, без дапамогі калькулятара, падлічыце, якую суму вам неабходна будзе ўнесці ў касу.

Усе тэлефонныя размовы, пасля таго як павесіце трубку, абагульніце мысленна яшчэ раз.

Абдумайце пасля абеду, што вы зрабілі ў першай палове дня, затым успомніце, што вы рабілі ў гэты ж дзень тыдня і ў гэты ж час тыдзень таму, два тыдні таму...

**Гібкасць і вытанчанасць.** Той, хто важыць больш за норму, наносіць шкоду сваёй памяці. Таму што высокі ціск, які спадарожнічае лішняй вазе, садзейнічае склерозу сасудаў мозгу.

**Спорт і рух.** Рэгулярныя заняткі спортам садзейнічаюць дзейнасці мозгу. Так што, калі хочаце мець добрую памяць, больш рухайцеся.

**Зубрэнне**. Часцей вучыце штонебудзь на памяць. Усё роўна — вершы або тэлефонныя нумары. Аптымальны варыянт — вывучыць замежную мову.

-1404-

## ДАМСКІ САЛОН

### Пяшчотнасць ад крухмалу

У гарачую пару збору ўраджаю заўсёды шмат работы ў агародзе і садзе. Як захаваць рукі ў парадку? Яны будуць выглядаць дагледжанымі, скура не агрубее, калі па магчымасці ўсе работы вы будзеце выконваць у пальчатках ці рукавіцах, а ўвечары зробіце ванначку з крухмалу — яна цудоўна змякчае скуру рук. Чайную лыжку крухмалу развядзіце шклянкай цёплай вады. Трымайце рукі ў гэтым растворы 10—15 хвілін, затым апаласніце іх, нанясіце крыху крэму на злёгку вільготную скуру.

Крухмальная ванначка вельмі карысная і для локцяў, калі скура на іх стала сухой і шурпатай.

### Знойдзем свой колер у адзенні

*Гардэроб жанчыны светлага тыпу*

**Валасы:** бялявыя або светла-русыя.

**Вочы:** блакітныя, шэра-блакітныя, светла-зялёныя.

**Адценне скуры**: слановай косці або фарфоравае, персікавае.

Жаданыя колеры вашага адзення неабходна вар'іраваць ад «вярблюджай шэрсці» (шаравата-бэжавага і цёмна-шэрага) да пяшчотнага шэравата-блакітнага. **Пазбягайце цёмных колераў!** Яны будуць абясколерваць вас, рабіць бледнай. Ваш белы — гэта колер слановай косці. Зразумела, што вы можаце дазволіць сабе насіць і адзенне больш інтэнсіўнага колеру. Напрыклад, марскі блакітны ці нешта з пастэльных тонаў: персікавы, жаўтавата-карычневы, лімонны, ружовы. Толькі зрэдку, на прыродзе, вы можаце дазволіць сабе яркі колер. Але сачыце за тым, каб ён не быў занадта «электрычным», ядавітым. Замест інтэнсіўнага «каралеўскага блакітнага» паспрабуйце сярэдне-блакітны. Светлыя тыпы жанчын цудоўна выглядаюць у блакітна-зялёных, бірузовых тонах! Яны быццам бы створаныя для іх.

## БАЦЬКОЎСКІЯ КЛОПАТЫ

### Цесната стымулюе фантазію

Калі ў кватэры няма асобнага пакоя для дзіцяці, то, падключыўшы фантазію, заўсёды можна забяспечыць яму больш-менш прыдатныя ўмовы для навучання і забаў. На малюнках паказана, як на адной пляцоўцы можна размясціць рабочы стол і «шведскую» сценку.





-1405-

### Віншаванні

*Віншуем з днём нараджэння **Ядвігу Іванаўну КАРЭЦ** з в. Юнцавічы Вілейскага раёна. Жадаем здароўя і шчасця на доўгія гады.*

**Сын, нявестка, унучкі.**

*Сардэчна віншуем любімага і дарагога сына і брата **Ігара Валянцінавіча ЯФРЭМАВА** з 20-годдзем! Жадаем шчасця, кахання, поспехаў у вучобе, здароўя і ўсяго найлепшага.*

**Бацькі, сястра Наташа.**

СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД







**У гэтай крыжаванцы яе аўтар звёў у адну адразу дзве: частку слоў трэба перакласці на беларускую мову, частку — на рускую. У кожным слове-заданні ўказваецца, на якую мову трэба яго перакласці: (б) — на беларускую, (р) — на рускую. Вельмі спадзяёмся, што гэта крыжаванка прыйдзецца даспадобы нашым чытачам. Такім чынам, рашайце яе.**

**Па гарызанталях:** **1**. Сітаўка (р). **7**. Перловая крупа (б). **12**. Дзеяслоў (р). **13**. Мурза, пэцкаль (р). **14**. Хлопоты (б). **15**. Побег (б). **16**. Скука (б). **17**. Тынкоўшчык (р). **18**. Цемра (р). **19**. Нудота (р). **20**. Отвращение (б). **22**. Клык (б). **25**. Август (б). **27**. Двигатель (б). **30**. Совещание (б). **31**. Забор (б). **34**. Четверть (Луны) (б). **36**. Рымар (р). **38**. Создатель (б). **39**. Ольха (б). **41**. Сирень (б). **42**. Завхоз (стар.) (б). **43**. Кірмаш (р). **44**. Банная шайка (б). **45**. Адзнака (р). **47**. Палач (б). **50** Месяц (р). **53**. Подберезовик (б). **56**. Черта (б). **57**. Матыка (р). **59**. Мерёжа, верша (б). **60**. Нараканне (р). **63**. Загад (р). **65**. Просвещение (б). **67**. Ударение (б). **68**. Довод (б). **71**. Колер (р). **73**. Лоботряс (б). **75**. Сети (перен.) (б). **76**. Шашок (р). **77**. Кавун (р). **78**. Опёнок (б). **82**. Цветок (б). **86**. Тряпка, ветошь (б). **87**. Утюг (б). **89**. Прыкмета (р). **90**. Кульба (р). **92**. Кашуля (р). **93**. Трясина (б). **94**. Шлюб (р). **95**. Зграя (р). **97**. Георгин (б). **100**. Община, мир (б). **103**. Полотенце (б). **104**. Гай (р). **105**. Бусак (р). **107**. Гумно (р). **109**. Сукенка (р). **110**. Понёва (б). **112**. Топор (б). **114**. Наседка (б). **118**. Молнія (б). **121**. Контрабас (разм.) (б). **123**. З'ява (р). **124**. Струбцина (б). **126**. Растопка (б). **127**. Приговор (б). **128**. Наковальня (б). **129**. Дрога (в телеге) (б). **130**. Крещение (б). **131**. Мерзавец (б).

**Па вертыкалях:** **1**. Черенок (ножа и т. п.) (б). **2**. Кайстра (р). **3**. Громадина (б). **4**. Обращение (грам.) (б). **5**. Пастка (р). **6**. Кросны (р). **7**. Летуценне (р). **8**. Попрёк (б). **9**. Любитель (б). **10**. Одуванчик (б). **11**. Ожерелье (б). **12**. Стекольный завод (б). **14**. Склон (б). **15**. Ущерб (б). **17**. Вред (б). **21**. Шарик, катыш (б). **23**. Локшына (р). **24**. Баня (б). **25**. Часопіс (р). **26**. Дураслівец (р). **28**. Крумкач (р). **29**. Харащтво (р). **31**. Дзіда (р). **32**. Сцежка (р). **33**. Штрыфель (р). **35**. Вільгаць (р). **36**. Ряд (б). **37**. Крышка (б). **40**. Веялка (б). **45**. Авечка (р). **46**. Лавка (б). **48**. Цярплівасць (р). **49**. Изба (б). **51**. Крадзёж (транспарта) (р). **52**. Часовня (б). **54**. Бірулька (р). **55**. Акраец (р). **58**. Украшение, отделка (б). **61**. Пест (б). **62**. Листва (б). **64**. Прыгнёт (р). **66**. Улитка (б). **69**. Проповедь (б). **70**. Зачёт (б). **71**. Змей (миф.) (б). **72**. Ватерпас (б). **74**. Душегрейка (б). **79**. Приданое (б). **80**. Почка (б). **81**. Купіна (р). **83**. Водоворот (б). **84**. Гарбуз (р). **85**. Кончина (б). **87**. Высокомерие (б). **88**. Амбар (б). **89**. «Падающая» звезда (б). **91**. Щёлок (б). **94**. Зяблик (б). **96**. Танцы, пляски (б). **98**. Толстый сук (б). **99**. Паклёпнік (р). **101**. Ружа (р). **102**. Сакавік (р). **106**. Лёс (р). **108**. Чердак (б). **109**. Приманка (б). **111**. Рэйка (р). **113**. Щепотка, капля (б). **115**. Кипяток (б). **116**. Женщина (замужняя) (б). **117**. Отрывок (б). **118**. Захады (р). **119**. Чешуя (б). **120**. Бокал, чаша (б). **121**. Аист (б). **122**. Бот (р). **124**. Пышные одежды (б). **125**. Ядун (р).

**Склаў крыжаванку Уладзімір ШЫЛКІН.**
*г. Барань.*

## Крыптаграма

Спачатку перакладзіце на беларускую мову пяць ключавых слоў:

а) 1-2-3-4-5-6-3 — юношество;
б) 7-8-9 — кормёжка;
в) 10-11-12-13 — действие (в пьесе);
г) 14-3-15-16-6-3 — топливо;
д) 17-18-19 — мешок.

Потым, карыстаючыся гэтымі словамі і памяняўшы аднолькавыя лікі на адпаведныя ім аднолькавыя літары, запішыце іх у клеткі малюнка. Калі вы зробіце гэта правільна, то ў клетках ромба па ходу гадзіннікавай стрэлкі вы прачытаеце старажытнае выслоўе, сугучнае і ў наш час.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## Праверце, калі ласка, адказы

**Крыжаванка (29 жніўня). Па гарызанталях:** 1. Сервіз. 4. Паклёп. 8. Сакрэт. 11. Баабаб. 14. Агора. 15. Рынк. 16. Астэроід. 17. Макарава. 18. Доўг. 19. Смала. 20. Фараон. 21. Алтын. 22. Сацін. 23. Доліна. 25. Ельск. 27. Нарышкін. 30. Беразіно. 31. Песня. 32. Ядваб. 33. Сакваяж. 38. Прасцяг. 42. Крама. 43. Скат. 44. Лужына. 45. «Ангара». 46. Нуга. 48. Давос. 51. Ятроўка. 54. Антракт. 57. Скаба. 58. Качка. 59. Гіпакрат. 62. Мамалыга. 65. Акула. 67. Нансен. 68. Кабул. 69. Ветах. 70. Сухумі. 72. Юкала. 74. Ірга. 75. Гардэроб. 76. Растрата. 77. Нант. 78. Аміяк. 79. Ацэтон. 80. Праліў. 81. Англія. 82. Гранін. **Па вертыкалях**: 1. Страфантэн. 2. Віктарына. 3. Зваднік. 4. Пётр. 5. Кароль. 6. Падснежнік. 7. Кобальт. 8. Самасідка. 9. Рэалія. 10. Трак. 11. Брандэр. 12. Андалузія. 13. Багдановіч. 24. Унія. 26. Збор. 28. Пераноска. 29. Малінаўка. 33. Сакля. 34. Катар. 35. Арлоў. 36. Жыжка. 37. Канва. 38. «Прага». 39. Акант. 40. Цынга. 41. Гагат. 47. «Брыганціна». 48. Дабралюбаў. 49. Скараварка. 50. Афганістан. 52. Транспарт. 53. Кіта. 55. Німб. 56. «Калыханка». 60. Рэнтген. 61. Муравія. 63. Мустанг. 64. Марэна. 66. Тантал. 71. Драп. 73. Заля.

## Рыбкі



На верхнім малюнку — восем пар белых і чорных рыбак. Замест пытальніка трэба падабраць з ніжняга малюнка з шасці пар рыбак менавіта тую пару, якая адпавядае прынцыпу падбору.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

■ **5 верасня 1568 года** нарадзіўся Тамаза Кампанела, італьянскі філосаф, тэолаг, паэт, які за сваё вальнадумства падвяргаўся ганенням з боку інквізіцыі — 27 гадоў правёў у зняволенні. Аўтар утопіі «Горад сонца», у якой апісана ідэальная, на яго думку, хрысціянска-камуністычная дзяржава. Па меркаванню Кампанелы, у камуністычным грамадстве будуць скасаваны прыватная ўласнасць і сям'я, а дзеці будуць агульнымі.

■ **У гэты дзень у 1638 годзе** нарадзіўся Людовік XIV, кароль Францыі, чэмпіён Еўропы па працягласці знаходжання на троне — 72 гады. У той час як «кароль-сонца» займаўся мастацтвам, літаратурай, тэатрам, краінай рэальна кіравалі кардыналы — спачатку Рышалье, затым Мазарыні.

■ **5 верасня 1918 года** Савет народных камісараў пасля забойства ў Петраградзе вядомага бальшавіцкага дзеяча Урыцкага і замаху на Леніна прыняў пастанову «Аб чырвоным тэрoры», па якой чэкістамі без судоў былі расстраляны тысячы заложнікаў.

■ **5 верасня 1919 года** загінуў Васіль Іванавіч Чапаеў, герой грамадзянскай вайны і анекдотаў.

■ **У гэты дзень у 1972 годзе,** у час Алімпійскіх гульняў у Мюнхене, група баевікоў палесцінскай тэрарыстычнай арганізацыі «Чорны верасень» захапіла ў заложнікі ізраільскую баскетбольную каманду. У ходзе аперацыі па вызваленню заложнікаў загінула 16 чалавек, у тым ліку 11 ізраільскіх спартсменаў. Гэтую тэрарыстычную акцыю арганізаваў «тэрарыст стагоддзя» Ільіч Рамірэс Санчас, вядомы па мянушцы «Шакал».

### Цікава

***Калі вы — славалюбівыя бацькі і хочаце, каб ваша дзіця абавязкова стала рок-зоркай, як Пол Макартні, Джым Морысан ці Род Сцюард, узбройцеся календаром.***

Складальнікі рок-энцыклапедыі Гінеса высветлілі, што ні адзін з 1200 больш-менш вядомых выканаўцаў, уключаных імі ў новае выданне даведніка, не нарадзіўся зімой. Усе славутыя рок-зоркі з'явіліся на свет у перыяд з сакавіка па верасень.

### А яшчэ быў выпадак

***У аўтамабілі, прыпаркаваным каля адной з гасцініц у германскім горадзе Брэмене, увагу злачынцы прыцягнуў пухлы кашалёк, яўна набіты тоўстымі пачкамі нямецкіх марак.***

Нядоўга думаючы, невядомы высадзіў бакавое шкло машыны і прыхапіў з сабой жаданую здабычу. Праўда, неўзабаве яму давялося расчаравацца: з-пад раскошнай вокладкі на свет Божы паказаліся не грашовыя купюры, а восьмая запаведзь — «Не ўкрадзі». Сімпатычны на першы погляд партаманет аказаўся Бібліяй, якую пакінуў на сядзенні машыны мясцовы епіскап.

### Кур'ёзы

Суддзя амерыканскага горада Луісвіля вырашыў, што прысяжныя перабралі меру, назначыўшы ў якасці пакарання абвінавачваемаму 5005 гадоў турэмнага зняволення ўсяго за нейкіх пяць грабяжоў і адно выкраданне з мэтай выкупу. Ён скараціў пакаранне роўна ў пяць разоў, і злачынца адправіўся за краты на 1001 год.

### І так бывае

***Самым цяжкім невылечным захворваннем, вядомым пад назвай «сіндром Мюнхгаўзена» (пастаяннае жаданне лячыцца), з'яўляецца выпадак з Уільямам Макіроем, які за час сваёй 50-гадовай кар'еры ў якасці пацыента абышоўся Нацыянальнай службе аховы здароўя Вялікабрытаніі прыблізна ў два з паловай мільёны фунтаў стэрлінгаў.***

За гэты час ён перанёс 400 буйных і дробных аперацый, ляжаў у 100 бальніцах пад 22 рознымі імёнамі. Самы працяглы перыяд, на працягу якога ён знаходзіўся дома, роўны пяці месяцам. У 1979 годзе гэты ірландзец нарэшце заявіў, што яму надакучылі бальніцы, і накіраваўся ў дом для састарэлых, дзе і памёр у 1993 годзе ва ўзросце 88 гадоў.

### Навінкі

***Якой толькі натуральнай прадукцыяй не выплачваецца часам народу запазычанасць па зарплаце.***

Шлангамі, цвікамі, унітазамі, ва Украіне, кажуць, у модзе гной (асабліва вясной ці восенню). А вось улады Омскай вобласці днямі паспрабавалі пагасіць запазычанасць насельніцтву па дзіцячай дапамозе (больш як 180 мільёнаў новых рублёў) ... расійскімі флагамі. Гэтакія патрыятычныя пялюшкі атрымаліся, коштам 114 рублёў кожная. Пакрыўджаныя мамы абласнога цэнтра аб'явілі «рэйкавую вайну», у выніку рух на Транссібірскай магістралі быў перакрыты на 6 гадзін.

Блакада была знята толькі пасля гарантаванага абяцання ўладаў у бліжайшыя дні выплаціць палову доўгу наяўнымі, а астатняе — прадукцыяй больш практычнай, з пункту гледжання жанчын, чым трохкаляровыя шаўковыя палотнішчы.

### Можа і так...

***Група даследчыкаў з Ліверпульскага універсітэта зрабіла сенсацыйную заяву аб сувязі паміж сексуальнымі магчымасцямі чалавека і формай яго пальцаў.***

У прыватнасці, мужчыны, у якіх безыменны палец падоўжаны і выступае над указальным, валодаюць павышаным утрыманнем тэстэрону ў крыві, гэта значыць большай сексуальнасцю, чым тыя, у каго ён карацейшы. Дастаткова зірнуць на безыменны палец мужчыны, сцвярджаюць вучоныя, як адразу ж можна распазнаць яго сексуальны патэнцыял.

А вось што датычыцца жанчын, то тут назіраецца адваротная залежнасць. Чым даўжэйшы ўказальны палец у параўнанні з безыменным, тым больш у арганізме жанчыны эстрагенаў — гармонаў, якія вызначаюць здольнасць нараджаць дзяцей. Так што цяпер, ведаючы апошнія навуковыя вывады, перш чым рабіць важны крок у жыцці, не перашкаджае зірнуць на свае пальцы — указальны і безыменны.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.



Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, г. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5298.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12